

Стахвюк і Вайцюшкевіч→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Гагатуха з Рацыяй→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3065) Год LX

Беласток, 8 лютага 2015 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Інтэрв'ю з МІКАЛАЕМ МАНТУРАМ, новым упаўнаважаным па нацыянальных і этнічных меншасцях падляшскага ваяводы Анджэя Мэйера (ГП), былым сямятыцкім старостам.**



# Упаўнаважаны з Сямятыч

**Мацей Халадоўскі: — Як Вы ставіцеся да Вашай няўдачы на выбарах у ваяводскі падляшскі сеймік? Гэта параза?**

**Мікалай Мантур:** — Я не прымаю гэтага як правал. Я дасягнуў трэцяга месца ў спісе Грамадзянскай платформы. На жаль, Платформа ў найбуйнейшай акрузе ў нашым ваяводстве, з якой я стартаваў (№ 4, так званай меншаснай — М. Х.), атрымала два мандаты. Такім чынам, я першым апынуўся пад рыскай.

**— Ці не здзівіла Вас прапанова ваяводы наконт уступлення на пасаду ўпаўнаважанага па меншасцях?**

— Праўда, гэта было нечаканасцю, таму што да гэтага часу я функцыянаваў, перш за ўсё, у сферы мясцовага самакіравання, выконваючы ролю старосты, а раней намесніка старосты. Мабыць, тая тэматыка, за якую адказвае ўпаўнаважаны па меншасцях, не была аж такой блізкай мне, але з-за дзейнасці да гэтага часу ў асяроддзі нацыянальных меншасцей у паўднёва-ўсходняй часткі ваяводства, іх праблемы мне не чужыя. Мяркуючы, што будзе добрая воля супрацоўніцтва з боку асацыяцый, арганізацый меншасцей і маёй прыхільнасці, якую дэкларую, і дэкларацыі з боку ваяводы, які ў сваёй першай прамове пасля свайго прызначэння міністрам адміністрацыі і лічбавізацыі сказаў, што ён хацеў бы, такім чынам, бліжэй чым да гэтага часу працаваць з меншаснымі асяроддзямі, — гэта будзе новае адкрыццё ў новай формуле гэтага супрацоўніцтва. Вядома, я не адмаўляю дасюлешніх вынікаў супрацоўніцтва майго папярэдніка Мацея Тэфэльскага і ранейшага ваяводы Мацея Жыўны. Тое, што я прыняў функцыю ўпаўнаважанага таксама азначае, што не растроіў мяне вынік выбараў у ваяводскі сеймік і я па-ранейшаму хачу працаваць у грамадскай сферы.

**— Але ці Ваша прызначэнне гэта выпадкам не партыйная кампенсацыя за старт у выбарах у падляшскі сеймік са спіска ГП і «выкананне» дастаткова добрага выніку?**

— Я гэтага так не трактую. Гэтая функцыя, па-за прадстаўнічым, ганаровым маштабам, не прадугледжвае якога-небудзь фінансавага задавальнення і, вядома, не будзе адзінай вобласцю маёй грамадскай і прафесійнай дзейнасці. Гэтая функцыя не дазваляе, каб з яе жыць і адчуваць сябе поўнасцю здзейсненым. Да гэтага часу я быў вельмі актыўным чалавекам, і хачу, каб актыўнасць працягвалася як мага даўжэй.

**— Як бачыце сваю ролю ў адносінах да нацыянальных і этнічных меншасцей у нашым рэгіёне? Які ў Вас будзе абсяг кампетэнцый? Што Вы зможаце зрабіць і да чаго Вы гатовы?**

— Аб'ём паўнамоцтваў і задач вынікае з Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях і рэгіянальнай мове. Яны зводзяцца з аднаго боку да каардынавання дзейнасці органаў урадавай адміністрацыі і часткова самаўрадавай у сферы дзейнасці нацыянальных і этнічных меншасцей, з другога боку палягаюць на супрацоўніцтве з арганізацыямі нацыянальных меншасцей, аказванні падтрымкі для іх працы па захаванні культуры, спадчыны, традыцый, нацыянальных моў, такіх як беларуская, украінская і літоўская, але і — магчыма перш за ўсё — рэгіянальных моў, якія, на шчасце, усё яшчэ існуюць на нашай тэрыторыі, у асноўным у сельскіх асяроддзях і трэба іх як мага даўжэй захаваць.

**— Якія, у Вашай ацэнцы, самыя вялікія праблемы, з якімі сутыкаюцца асяроддзі меншасцей, у тым ліку беларуская?**

— Я толькі ў пачатковай стадыі выканання сваёй функцыі, і яшчэ не ведаю ўсіх праблем, якія выносяцца меншасцямі. Я ведаю, што генеральнай праблемай з'яўляецца дэфіцыт фінансавых рэсурсаў. Ёсць дзве крыніцы фінансавання арганізацый нацыянальных меншасцей. Найбуйнейшай з іх з'яўляецца дэпартамент веравызнанняў і нацыянальных ды этнічных меншасцей Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Другая — Управа Падляшскага ваяводства, якая з кожным годам вылучае нейкі фінансавы пакет для падтрымкі мерапрыемстваў, фестываляў або рэканструкцыі помнікаў. На жаль, да гэтага часу, так камісія ў дэпартаменце веравызнанняў і меншасцей МАіЛ, як і ваяводская ўправа не кансультавалі сваіх рашэнняў аб грантах паасобным меншасным арганізацыям. Маім намерам будзе змена такога становішча ў гэтай справе. Хоць успомнены дэпартамент МАіЛ не мае абавязку кансультаваць свае рашэнні з ваяводамі, а тым больш з упаўнаважаным па меншасцях, тым не менш я выступлю з адпаведным лістом у дэпартамент з прапановай пачаць кансультацыі. Які атрымаецца вынік і ці сапраўды ў мяне будзе магчымасць пракансультаваць рашэнні, гэта яшчэ трэба высветліць. Разлічваю таксама на шчыльнае супрацоўніцтва з ваяводскай управай і дэпартаментам культуры Маршалкоўскай управы, які займаецца праблемамі нацменшасцей, а гэта ў кампетэнцыі віцэ-маршалка Мацея Жыўны, з якім у мяне добрыя сяброўскія і партыйныя адносіны. Так што чакаю эфектыўнага супрацоўніцтва з ім і дырэктарам дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Анатолем Вапам. Таму, што я прыйшоў з асяроддзя мясцовага самакіравання, і яно дарагое мне, я спадзяюся эфектыўнага і дзейснага супрацоўніцтва са сваімі калегамі ў органах мясцовага самакіравання, асабліва ў гмінах, населеных меншасцямі. Неўзабаве я хачу сустрэцца з прадстаўнікамі арганізацый нацыянальных меншасцей, каб даведацца пра спадзяванні і каб разам мы маглі распрацаваць больш эфектыўныя формы супрацоўніцтва.

**— Ну, а як Вы хочаце пераканаць адказных за фінансаванне дзейнасці меншасцей, каб яны маглі не толькі неяк даваць сабе рады, але ўвогуле выжыць, як «Ніва», якая змагаецца з сур'ёзнымі фінансавымі праблемамі з-за недастатковага фінансавання з боку МАіЛ?**

— На жаль, фармальная магчымасці дзейнняў упаўнаважанага ваяводы па справах меншасцей вельмі абмежаваныя. Ваявода не распараджаецца сваімі ўласнымі сродкамі, якія маглі б падтрымаць арганізацыі тыпу Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» і іншыя. Я спадзяюся, як я казаў, што рашэнні па сумах, прысуджаных дэпартаментам па веравызнаннях і нацыянальных меншасцях МАіЛ, а таксама Ваяводская ўправа будуць шырока кансультаваць з асяроддзямі аб'яднанняў нацыянальных меншасцей і з маёй асобай. Я, у сваю чаргу, хачу як найшырэй пазнаёміцца з патрэбамі меншасных суполак. Я не думаю, што ўдалося б значна павялічыць тыя сумы, але спадзяюся, што разам мы можам распрацаваць больш эфектыўнае і справядлівае іх размеркаванне.

**— Ці павінна яно быць так, што ўрадавыя чыноўнікі патрабуюць вызначэння меры беларускай ідэнтычнасці і вырашаць, што павінна быць меншасцям патрэбнае для падтрымання іх ідэнтычнасці, як гэта адбылося нядаўна ў выпадку прыняцця рашэння не прысуджаць датацыі МАіЛ Фонду «Віла Сакрата» для арганізацыі ў гэтым годзе «Трыялогаў»?**

— Маю намеры, аб якіх я ўжо згадваў, паказваюць, што ваша пытанне, па сутнасці, рытарычнае. Натуральна, што так не павінна быць. Сутнасцю дзейнняў упаўнаважанага ваяводы па справах меншасцей, дэпартамента па справах веравызнанняў і меншасцей МАіЛ, і дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы павінна быць у першую чаргу падтрымка найбольш актыўных абшчын. Заяўляю, што на тэму прычын рашэння МАіЛ у справе «Трыялогаў» пасля кансультацый са спадаром ваяводам, я выкладу сваю пазіцыю.

**— А ці Вы прымеце нейкія меры, каб польская дзяржава кампенсавала беларускія сем'і ахвяр пацярпелых ад Рамуальда Райса «Бурага» і дэпутаты, нарэшце, схацелі навелізаваць законапраект аб ветэранах датычны да гэтага пытання, а не маюць яны ў пераважнай большасці добрай палітычнай волі?**

— Мая кампетэнтнасць як упаўнаважанага ў гэтых пытаннях вельмі абмежаваная. Я бачу тут вялікую магчымасць дзейнняў менш фармальных з-за таго, што я — член Грамадзянскай платформы, партыі якая зараз сумесна кіруе. Падыму гэтае пытанне сярод дзеячаў ГП, каб дэпутаты гэтай партыі з Падляшскай зямлі таксама з маім удзелам у рамках парламенцкай камісіі па меншасцях звярнуліся да ўсяго Сейма з пасланнем у гэтай справе.

**— Ці можна будзе разлічваць на Вашы як упаўнаважанага рэакцыі ў выпадку адмовы выдачы віз у Беларусь дзеячам беларускіх арганізацый, як гэта было ў выпадку Алены Глагоўскай, Яўгена Вапы або Юрыя Ляшчынскага?**

— Упаўнаважаны ваяводы па справах меншасцей не мае кампетэнцый, каб умешвацца ў такіх выпадках. Гэтыя рашэнні залежаць ад атмасферы адносін і кантактаў паміж нашымі краінамі. Ёсць адсутнасць такой волі з беларускага боку. Я не магу сабе ўявіць, як упаўнаважаны падляшскага ваяводы можа паўплываць на тое, каб з боку беларускіх чыноўнікаў гэта змянілася.

**— Якім лозунгам ахопіце сваю місію як чыноўніка — упаўнаважанага ваяводы па справах меншасцей?**

— Я заўважыў пэўнае саперніцтва беларускіх і украінскіх суполак і паспрабую змяніць гэтую сітуацыю. Я хацеў бы яе засяродзіць на супрацоўніцтве, а не саперніцтве. Маім намерам і роляй з'яўляецца трактаванне ўсіх нацыянальных і этнічных меншасцей у роўнай ступені.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**





# Спеласць нацыі

Лёсы беларусаў і ўкраінцаў за апошнія стагоддзі былі заўсёды моцна пераплеценыя і вельмі падобныя. Нездарма ва ўсіх жыхароў Беларусі, што маюць у галаве хоць драбінку рацыянальнага мыслення, такую насцярогу, занепакоенасць і нават страх выклікае расійская агрэсія і захопніцкая палітыка ў дачыненні да зямель паўднёвай краіны-суседкі. Вайна сапраўды грукаецца ў нашы дзверы, яна на парозе, і гэта публічна прызнаў у сваім сямігадзінным выступе перад прэсай начальнік беларускай дзяржавы. Але зараз не пра гэта. Зараз пра параўнанне развіцця Беларусі і Украіны за апошнія 30 гадоў. У 1985 г. рэспублікі Савецкага Саюза з надыходам гарбачоўскай перабудовы атрымалі лавіну праўдзівай інфармацыі і фактычнае права на адраджэння свайго нацыянальнага. З непасрэдным удзелам кіраўнікоў Украіны і Беларусі ў самым канцы 1991 г. быў аформлены лагічны канец існаванню савецкай імперыі зла. Далейшае дэмакратычнае развіццё Беларусі доўжылася вельмі непрацягла — усяго два з паловай гады — і скончылася адразу пасля першых прэзідэнцкіх выбараў у ліпені 1994 года. А ў 1996 г. быў ужо канчаткова аформлены антыканстытуцыйны пераварот з самым чынным удзелам крамлёўскіх палітыкаў і спецслужбаў. Украіна ж мела дэмакратычны шлях і выбар аж но да 2010 г. і змяніла аж чатырох прэзідэнтаў! Калі сапраўды браць за пункт адліку 1991 год — гэта 19 гадоў сапраўднай незалежнасці. Параўнайце 2,5 гады і 19! Дык вось, што хачу сказаць. Праблема ўкраінскай дзяржавы была ў тым, што яе ўладныя вярхі за гэтыя 19 гадоў скампраметавалі ідэю дэмакратычнага грамадства ўшчэнт. Замест пазітыўных рэформаў і развіцця, краіну прасякнулі дзікая „прыхватызацыя", карупцыя і татальнае хабарніцтва. Абуральна глядзець зараз як Леанід Кучма, які кіраваў Украінай ажно два прэзідэнцкія тэрміны, недарэчна імкнецца апранучь тогу міратворца. Бо ён — адзін з галоўных вінаватых у тым, што Украіна апынулася ў такім цяжкім стане. Няўдаласць першага суверэннага кіраўніка Леаніда Краўчука яшчэ можна спісаць на цяжкасці пераходнага перыяду, а вось Кучму папросту няма апраўданняў. Нічога талковага не змаглі зрабіць за сваю кадэнцыю і Віктар Юшчанка з Юліяй Цімашэнкай, якія прыйшлі да ўлады на хвалі Аранжавай рэвалюцыі 2004 года. У выніку на дэмакратычных выбарах 2010 г. украінскі народ выбраў сваім кіраўніком відавочнага крымінальніка і бандыта па сваёй сутнасці. Гэта выразна азначала, што ўкраінская нацыя не даспела палітычна. Бо як можна было выбраць такога прэзідэнта, хай сабе і ў другім туры, пры наяўнасці дзясятка новых і больш вартых кандыдатаў. А ўжо законна абраны Януковіч, спрабуючы збудаваць аўтарытарны рэжым на ўзор беларускай мадэлі, хутка давёў народ да крайняй мяжы пратэсту і ў выніку — да Майдана як імкнення да справядлівасці.

Скажу больш, рызыкуючы наклікаць абурэнне многіх. Калі б у прэзідэнты Украіны ў 2010 г. балатаваўся Аляксандр Лукашэнка, за яго рэальна прагаласавала б бальшыня ўкраінскіх грамадзян і ён выйграў бы з першага тура. Міф клапатлівага Бацькі, айца народа, на той момант ва Украіне быў надзвычай устойлівы. А сама Беларусь падавалася ўкраінцам выспай стабільнасці і матэрыяльнага дабрабыту. У Беларусі ж „вечны і нязменны гарант" ужо даўно не мае падтрымкі большасці. Таму і была разагнана Плошча ў снежні 2010 года. Выкажу тут крамольную думку — калі б яе імклівa і жорстка не здушылі, першы Майдан здарыўся б ужо тады ў Мінску.

Зараз украінскі народ геранчна бароніць сваю дзяржаву і права кіраваць на сваёй зямлі самому. Прадстаўнікі гэтай нацыі вартыя захаплення і павагі. Але запярэчу тым, хто грэбліва выказваецца пра беларусаў як нацыю. Беларусы таксама змагаліся гэтыя 20 гадоў: некалькі назаўсёды зніклых палітыкаў, сотні крымінальных спраў, тысячы арыштаў, масавыя збіванні і пераслед іншадумцаў таму пацвярджэнне. Зрэшты, гэта асобная тэма.

Палітычнае выспяванне беларускай нацыі апярэджвае пакуль нацыянальнае сталенне. Але менавіта нацыянальная спеласць урэшце і прывядзе нас да вольнасці і сапраўднай незалежнасці.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Наш цывілізаваны свет

Забойства і распальванне да яго падвяргаюцца пакаранню ва ўсім цывілізаваным свеце з аднолькавай строгасцю. Нават калі забойца быў бы бескарысным грамадству дэгенератам, а заказчык забойства — паважаным джэнтльменам, які штодзень займаецца дабрачыннасцю, абодва ў святле заканадаўства былі б у роўнай ступені прызнаны вінаватымі ў здзяйсненні злачынства і пакараны ў такой жа ступені. Па меншай меры, тэарэтычна. У Беларусі, апошняй еўрапейскай краіне, якая захоўвае смяротнае пакаранне паводле архаічнага права сіметрычнай адплаты, замацаванага ў Кодэксе Хамурапі, забойцаў ліквідуюць абсалютным, канчатковым стрэлам у патыліцу. У Кітаі, страляюць або вешаюць — часам масава. У ЗША, дзе паасобныя штаты маюць аўтаномную юрысдыкцыю, у большасці з іх паспяхова зацерлі запіс пакарання смерцю або ахапілі яго мараторыем. Толькі ў некаторых штатах выкарыстоўваецца смяротная ін'екцыя, газавая камера або электрычнае крэсла. Тым не менш, сістэма апеляцыі, абавязковая ва ўсім заканадаўстве ЗША, перапыняе выкананне смяротнага прысуду часта на дзесяцігоддзі. Гэта звязана з прававой філасофіяй дзяржавы, дзе смяротнае пакаранне лічыцца апошнім сродкам, таму адкрывае перад асуджанымі магчымасць спадзявацца на аргументы — прававыя або іншыя — якія змякчаць прысуд аж да канчатковага вычарпання з натуры працяглай працэдуры апеляцыі. У Расіі, калі я правільна памятаю, смяротнае пакаранне было ахопленае мараторыем, то-бок, пастаўленнем яго ў стан прыпынення яшчэ ў часы прэзідэнцтва Барыса Ельцына (без сумневу, шчырага, хоць няўмелага дэмакрата), і такі стан спраў захоўваецца і па сённяшні дзень. Не без прычыны, у рэшце рэшт таму, што смяротнае пакаранне можа быць выдатным інструментам у ажыццяўленні аўтарытарнага праўлення. У Польшчы смяротнае пакаранне было прыпыненае раней, чым у Расіі, і пасля ўнясення паправак у Крымінальны кодэкс, заснаваны на глыбокіх гуманітарных падставах, і цалкам адмененае. На жаль, паяўляюцца галасы, якія ўсё больш і больш патрабуюць яго аднаўлення. Здаецца, невыпадкова яны ідуць ад палітычных колаў, якія мараць аб аўтарытарнай уладзе. Самымі гучнымі ў гэтым дачыненні з'яўляюцца прадстаўнікі польскага правага лагера — гэтага радыкальнага, народна-нацыяналістычнага. Але далучаецца да яго (больш ці менш відавочна) значная частка дзеячаў самай буйнай апазіцыйнай партыі, якія імкнуцца ўзяць на сябе палітычную ўладу. У Польшчы, ідэалагічна расстроенай, такое супадзенне вельмі расчароўвае. У палітыкаў няма выпадковасці, можа хіба што паўстане супадзенне мэт. А калі яны аказваюцца быць агульнымі наконт смяротнага пакарання, дык таксама ў іншых выпадках яны могуць прыняць той жа кірунак. Прызнаюся, гэта турбуе мяне больш за ўсё.

Калектыўная разня ў суботу, 24 студзеня, ва ўкраінскім Марыупалі не павінна ні ў якім выпадку застацца беспакаранай. Прыгадаю, што ў выніку ракетнага абстрэлу, накіраванага свядома на шматлюдны натоўп мясцовых жыхароў на базары, забіў 30 мірных чалавек і амаль сто з іх атрымалі сур'ёзныя раненні. Эксперты місіі АБСЕ ва ўсходняй Украіне не маюць ніякіх сумненняў, што гэты варварскі напад зрабілі сепаратысты, якіх утрымлівае расійская дзяржава. Дзяржава, дадам, недзеяздольная з-за аўтарытарызму яе прэзідэнта, Пуціна. Дык толькі Пуцін нясе адказнасць за ўнутраную і знешнюю палітыку Расіі. Толькі Пуцін, а не народ, вырашае аб даўзбройванні ўкраінскіх сепаратыстаў ваенным сучасным абсталяваннем, аб іх матэрыяльна-тэхнічнай і разведвальнай падтрымцы. Толькі Пуцін вырашае аб тым, каб адправіць на тэрыторыю незалежнай дзяржавы баявы кантынгент расійскіх салдат. Гэта Пуцін падбухторвае да забівання, гвалтавання і рабавання — нібыта ў імя вышэйшай сілы палітычнай неабходнасці, звышдзяржаўнай ідэі геапалітычнай стратэгіі. Пуцін і толькі Пуцін адказвае за гібель больш за пяці тысяч украінцаў, у большасці з іх грамадзянскіх асоб, за знішчэнне ўкраінскіх гарадоў і вёсак, за адчай і пакуты соцень тысяч нявінных людзей, якія сталі ахвярамі развязанай ва Украіне і ніколі не аб'яўленай вайны. Пуцін — завадатар злачынства. Пуцін — забойца. З забойцам гаворыцца толькі ў адным выпадку — калі сядзіць ён на лаве падсудных. Але ў свеце палітыкі судзяць толькі тых, хто прайграў. А Пуцін пакуль што — пераможца. Перамога супрацьстаіць кожнаму абвінавачванню. Перамога не падпадае пад юрысдыкцыю суду. Вось які наш цывілізаваны свет.

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Замарожаная справядлівасць

Мінула чарговая гадавіна злачынства, здзейсненага атрадам Рамуальда Райса «Бурага» ў Залешанах, Занях, Канцавізне, Шпаках і Вульцы-Выганоўскай. У памяці беларусаў у Польшчы ўсё яшчэ жывая памяць аб тадышніх трагічных здарэннях. Паводле сем'яў ахвяр, былі забіты 82 чалавекі, па дадзеных Інстытута нацыянальнай памяці, які вёў расследаванне той пацыфікацыі — 79. У наступным годзе міне 70 гадоў з моманту крывавых падзей. Арганізатары сялетніх святкаванняў гадавіны масавых забойстваў у Залешанах на адным з сайтаў сацыяльных сетак выклалі м.інш.: «Польскія дзяржаўныя ўстановы, грамадскія арганізацыі, а таксама шараговыя грамадзяне не хочуць разумець і ўшанаваць гэтую вялікую трагедыю. Штогод паказваецца нам, — сем'ям закатаваных, праваслаўным, беларусам, а таксама звычайным грамадзянам, якія хочуць ушанаваць памяць ахвяр, што мы — грамадзяне другога гатунку (...). Мы адчуваем сябе грамадзянамі другога гатунку, таму што польская дзяржава праз падначаленыя органы навязвае нам сваю версію гісторыі, у якой ахвяры «Бурага» гэта проста «камуністы», а іх каты — «героі, якія, не шкадуючы намаганняў, змагаліся за незалежную польскую дзяржаву». Прыгадаем, Інстытут нацыянальнай памяці Камісія для судовага пераследу злачынстваў супраць польскага народа ў Беластоку правяла расследаванне па гэтай справе, у якім здзейсненыя атрадам «Бурага» дзеянні кваліфікуюцца як «злачынствы супраць чалавечнасці, учыненыя ў мэтах знішчэння часткі польскіх грамадзян з-за прыналежнасці да беларускай нацыянальнай групы праваслаўнага веравызнання».

У траўні міне яшчэ адна «гадавіна» — сёмая з моманту, калі быў падрыхтаваны дэпутацкі праект аб унясенні змяненняў у закон аб ветэранах і некаторых асобах, якія з'яўляюцца ахвярамі рэпрэсій вайны і пасляваеннага перыяду. Для прадстаўлення законапраекта ў парламенце быў пасланы падляшскі дэпутат ад СЛД Яўген Чыквін, намеснік старшыні парламенцкай камісіі па нацыянальных і этнічных меншасцях. Законапраект прадугледжвае права такіх асоб хадайнічаць за кампенсацыю за ўчыненыя ім крыўды. Больш канкрэтна, гэта датычыць польскіх грамадзян, якія пацярпелі ў выніку злачынства генацыду, здзейсненага падпольнымі ўзброенымі атрадамі пасля заканчэння Другой сусветнай вайны, бо існуючае прававое становішча, у ацэнцы аўтараў законапраекта, нельга пагадзіць з канстытуцыйным прынцыпам грамадскай справядлівасці. У абгрунтаванні законапраекта дэпутаты падкрэслілі: «Відавочным з'яўляецца факт, што мірныя грамадзяне, якія пацярпелі траўмы ў выніку дзейнасці арганізаваных узброеных груп пасля Другой сусветнай вайны, павінны атрымаць кампенсацыю (фінансавую — М. Х.) за свае крыўды. Калі Польская дзяржава бярэ на сябе адказнасць за дзейнасць гэтых груп, лічачы іх дзейнасцю ад яе імя і выплачваючы кампенсацыю спадчыннікам салдат, якія ваявалі ў тых атрадах, незалежна ад здзяйснення гэтымі салдатамі злачынстваў (забойствы і спаленне жывых людзей — у тым ліку жанчын і дзяцей, як гэта было ў вёсцы Залешаны), то, рэалізуючы ўспомнены прынцып грамадскай справядлівасці, варта выправіць шкоды ўчыненыя мірным староннім асобам». Калі выказаць здагадку, што прысуджаная кампенсацыя будзе налічвацць каля 50 тысяч злотых — такой сумай суд задаволіў удаву Рамуальда Райса — фінансавыя наступствы для дзяржаўнага бюджэту не будуць перавышаць 5 мільёнаў злотых. Гэты праект не выклікаў ніякіх фармальных пярэчанняў між іншым юрыдычнага бюро Сейма, а кіраўніцтва сацыяльнага страхавання не заявіла да яго заўваг.

Калі я нядаўна пытаўся пра лёс папраўкі ў дэпутата Чыквіна, той прызнаўся:

— Праект трапіў у першым чытанні ў камісію па сацыяльнай палітыцы. Тут быў адхілены. Што далей, залежыць ад рашэння маршалка Сейма. У Сейме бягучага тэрміну няма, аднак, палітычнай волі, каб унесці змены ў закон аб ветэранах.

У сваю чаргу член парламенцкай камісіі па нацыянальных меншасцях, дэпутат Аляксандр Сасна (ГП) сказаў:

— Я размаўляў з прадстаўнікамі ўсіх клубаў і няма палітычнай волі для вырашэння гэтага пытання. Атрымліваецца, што 25 гадоў дэмакратыі ў Польшчы недастаткова, каб па гэтым пытанні выкарыстаць формулу: «Мы даруем і просім прабачэння».

Мабыць, толькі пасля восеньскіх парламенцкіх выбараў, у 70-годдзе трагічных падзей, новыя дэпутаты будуць гатовы нахіліцца над кампенсацыяй крыўдаў, і можа не толькі фінансавай.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Віктар Стахвюк і Зміцер Вайцюшкевіч у Нарве




Госці сустрэчы – (злева) Віктар Стахвюк і Зміцер Вайцюшкевіч

У Нарве беларускія мерапрыемствы арганізуюцца ў трох установах — у Школьна-прадшкольным комплексе, Гміннай публічнай бібліятэцы і ў Нарваўскім асяродку культуры. Дзеткі і моладзь дэкламуюць вершы і прозу па-беларуску, спяваюць беларускія песні, ставяць беларускія прадстаўленні. Арганізуюцца там сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, мастакамі, народнымі творцамі, выступаюць беларускія барды, а мясцовыя жыхары сустракаюцца з аматарамі лакальнай гісторыі. Па вёсках Нарваўскай гміны ладзіліся беларускія фэсты, а ў самой Нарве арганізуюцца Гмінныя дажынкі і Дні Нарвы, падчас якіх выступаюць, між іншым, беларускія калектывы. Аўтарская сустрэча з беларускім пісьменнікам, членам літаратурнага аб'яднання «Белавежа» Віктарам Стахвюком і канцэрт славутага беларускага барда Зміцера Вайцюшкевіча, які раней выступаў у Нарве ў рамках «Бардаўскай восені», адбыліся 22 студзеня ў Гміннай публічнай бібліятэцы ў Нарве. Суарганізатарам мерапрыемства быў Нарваўскі асяродак культуры. Удзельнікаў сустрэчы прывіталі і вялі спатканне дырэктарка бібліятэкі Анна Андраюк-Савіцкая і дырэктарка асяродка культуры Агата Смактуновіч.

Першым выступіў Віктар Стахвюк, які расказаў пра сваё жыццё па-за Беласточчынай, адкуль цягнула яго на бацькаўшчыну.

— Жывучы ў Чанстахове, я думаў і гаварыў па-свойму. Жывучы далёка ад дому, я навучыў дзяцей гаварыць на нашай мове. Такім чынам даведаліся яны адкуль мы і кім мы з'яўляемся. Цягнула мяне на бацькаўшчыну і я вярнуўся дамоў, — заявіў Віктар Стахвюк у пачатку свайго выступлення.

Пісьменнік распавёў пра сваю работу ў БГКТ, успомніў як суарганізаваў пабыўку дзетак з чарнобыльскай зоны на Беласточчыне, гаварыў таксама пра свае першыя вершы, напісаныя на беларускай літаратурнай мове і на гаворцы роднай Трасцянкі, і пра выдадзеныя кніжкі.

— Пачаў я пісаць вершыкі на беларускай літаратурнай мове, а натхніў мяне да гэтага Віктар Швед. Першы верш я напісаў у чацвёртым класе пачатковай школы. Пасля крыху пісаў у стол, а калі жыў у Чанстахове, то, едучы ў цягніку, пісаў на сурвэтках і спісваў у сшыткі. Калі Ян Чыквін сустрэў мяне ў цягніку ў дарозе з Мінска, сказаў прынесці вершы, бо былі грошы, каб выдаць паэтычны зборнік. Я дапісаў крыху вершаў і прынёс іх старшыні «Белавежы» і так стаў я літаратарам. Аднойчы выйшаў я за сваю вёску, паглядзеў на прыроду і схацелася мне на сваёй мове расказаць тое, што ўбачыў. Падумаў, чаму не пісаць па-свойму? Нашая мова была ў мінулым дзяржаўнай мовай Вялікага Княства Літоўскага, мовай князёў, — расказваў Віктар Стахвюк, які намерваецца выдаць паэтычны зборнік на дыялектнай мове. — Важным месцам у маёй творчасці з'яўляецца Трасцянка. Зараз я пішу вершы на гутарковай мове і на тэмы, якія мяне кранаюць. Пішу таксама пра нашую мінуўшчыну і крытыкую парадкі, якія прыходзяць да нас з Заходняй Еўропы.

Віктар Стахвюк засяродзіўся таксама на падрыхтаваных да выдання новых кніжных матэрыялах, у якіх, між іншым, крытыкуе парадкі ў свеце. Аднак сабраным найбольш спадабаліся вершы Віктара Стахвюка, напісаныя па-свойму, на трасцянскім дыялекце, якія чытаў ён падчас сустрэчы.

Пра Зміцера Вайцюшкевіча, яго актыўнасць у Польшчы, а перш за ўсё падчас фестываляў «Бардаўская восень», распавяла дырэктарка Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч. Папоўніў яе сам Зміцер Вайцюшкевіч, напамінаючы, што ў мінулым хацеў здабываць вышэйшую адукацыю ў Польшчы, але з гэтым не атрымалася. Паколькі мерапрыемства адбывалася ў перыяд спявання калядак, бард пачаў сваё выступленне з успамінаў — як у дзяцінстве праводзіў святкаванні Хрыстовага Нараджэння з падказкамі бабулі і як спяваў аўтарскія калядныя творы, між іншым, на словы Уладзіміра Някляева. Пасля праспяваў свае навейшыя творы і старэйшыя песні ды ўдала разварушыў публіку, заахвочваючы яе да музычнай актыўнасці.

— На Беласточчыне, дзе жывуць беларусы, я не адчуваю сябе госцем. Тут магу гаварыць па-беларуску, а публіка разумее мае беларускія песні, — сказаў Зміцер Вайцюшкевіч.

На заканчэнне сустрэчы сабраныя горача апладзіравалі пісьменніку Віктару Стахвюку і барду Зміцеру Вайцюшкевічу.

Раней у гміннай бібліятэцы ў Нарве адбыліся майстар-класы па разьбе, якія вёў Уладзімір Наўмюк. Дырэктарка бібліятэкі Анна Андраюк-Савіцкая паказала журналістам разьбу, якую выканалі дарослыя аматары мастацтва з Нарвы і наваколля падчас майстар-класаў. У Нарваўскай гміне жыве многа народных мастакоў, рукадзельнікаў, якіх працы прэзентаваліся ў гміннай бібліятэцы.



— Зараз чытанне кніжак зноў становіцца модным. Жыхары нашай гміны чытаюць кніжкі, а ёсць чытачы, якія робяць гэта часта. Мы ладзім сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі, бардамі.

— Арганізавалі мы прамоцыю кніжкі нашай паэтэсы і мастачкі Касі Сянкевіч, пасля была прамоцыя кніжкі Міры Лукшы «Падарункі», якую праілюстравала тая ж Кася. Нашыя жыхары ахвотна прыходзяць на спатканні з беларускімі пісьменнікамі і бардамі. Арганізавалі мы сустрэчы, між іншым, з Багданам Дудко, Алегам Кабзаром. Прадбачваем яшчэ майстар-класы па рукадзеллі і кулінарыі, — сказала дырэктарка бібліятэкі Анна Андраюк-Савіцкая. Праінфармавала яна, што ў нарваўскай бібліятэцы, апрача польскамоўных кніжак, ёсць і беларускія выданні, галоўным чынам творы класікаў беларускай літаратуры і «белавежцаў». Беларускія кніжкі чытаюць таксама ў бібліятэчных філіялах у Ласінцы і Трасцянцы. У кастрычніку мінулага года ў гміннай бібліятэцы быў арганізаваны канцэрт Паліны Рэспублікі ў рамках XXI Фестывалю «Бардаўская восень». У нарваўскай бібліятэцы адбылася таксама прэзентацыя мастацкіх прац і фатаграфій Лідзіі Маліноўскай, члена калектыву беларускай песні «Маланка» і яе кніжкі «Жураўліная журба».

У Школьна-прадшкольным комплексе ў Нарве настаўнікі беларускай мовы заахвочваюць дзетак да актыўнасці на беларускай ніве.

— У нашай школе арганізуюцца гмінныя адборы дэкламатараў для конкурсу «Роднае слова», вучні прымаюць удзел у конкурсе расказчыкаў «Беларуская гавэнда». Нашы вучні, якія рыхтуюцца да агляду беларускамоўных тэатральных пастановак, паказваюць прадстаўленні таксама перад вучнёўскай публікай і бацькамі, — удакладнілі дырэктар нарваўскай школы Юры Астапчук і яго намеснік Ігар Лукашук.

Вучні нарваўскай школы паспяхова прымалі ўдзел у прадметным конкурсе па беларускай мове і ахвотна выступалі з беларускамоўнымі прадстаўленнямі падчас беларускіх фэстаў. У 2008 годзе ў Нарваўскай гміне распачалася рэалізацыя праекта «Жыве яшчэ традыцыя». У рамках праекта па вёсках ладзіліся беларускія фэсты. У Нарваўскай гміне арганізуюцца таксама Гмінныя дажынкі і Дні Нарвы, падчас якіх выступаюць, між іншым, беларускія калектывы. У пачатку мінулага года ў вясковай святліцы ў Ласінцы адбылася прэзентацыя кампакт-дыска «Песні беларусаў з наваколля Лядскай пушчы», якой галоўнымі арганізатарамі былі Музей малой айчыны ў Студзіводах і Нарваўскі асяродак культуры. У асяродку культуры ў мінулым годзе старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік знаёміў сабраных з выданнем «Гарады ў гісторыі і культуры падляшскіх беларусаў», у якім многа месца адведзена Нарве — гораду з доўгай і славутай гісторыяй. Вясной мінулага года Студзіводскі музей у супрацоўніцтве з Нарваўскім асяродкам культуры наладзіў Веснавыя карагоды з валачобнікамі ў Скарышэве, Тыневічах-Вяліких, Прыбудках і Гарадзіску. А месяц таму асяродак культуры ў Нарве наладзіў гмінную Куццю, між іншым, са спяваннем традыцыйных калядак.

— У гэтым годзе разам з Музеем малой айчыны ў Студзіводах плануем арганізаваць фальклорныя мерапрыемствы ў Янове, Гарадзіску і Козліках. Ёсць задума, каб аднавіць «Купалле» ля ракі Нарвы, якое ладзіў Звяз беларускай моладзі. Зараз шукаем спонсараў для здзяйснення гэтай задумы, — сказала дырэктарка Нарваўскага асяродка культуры Агата Смактуновіч.

У Скарышэве Міхал Фільяновіч вядзе Беларускую рэгіянальную ізбу-музей з ухілам на беларускую культуру, традыцыі і гісторыю, які супрацоўнічае са Студзіводскім музеем. Міхал Фільяновіч таксама прыбыў на сустрэчу з беларускім словам і беларускай песняй, наладжаную ў нарваўскай бібліятэцы.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Многа калядоўшчыкаў у Нараўцы

23 студзеня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы адбыўся VIII Гмінны агляд калядных гуртоў і салістаў пад лозунгам «Калядуйма разам». На сцэне ГАК выступілі 22 г.зв. выканаўчыя адзінкі ды амаль усе з прыгожымі гвяздамі. Калядоўшчыкаў было больш за паўтары сотні. На агляд прыехаў таксама адзін гурт з Міхалоўскай гміны — з Новай Волі (ён прыязджаў на агляд і ў мінулым годзе). Найбольш было дзіцячых і маладзёжных гуртоў Комплексу школ у Нараўцы. Усе яны ў калядках славілі нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста.



Сярод фальклорных калектываў першае месца занялі «Нараўчанкі» з Нараўкі (яго музычны кіраўнік Пятро Скепка), а другое — «Цаглінкі» са Старога Ляўкова (музычны кіраўнік Мікалай Мяжэнны). Гурт калядоўшчыкаў з Новай Волі заняў трэцяе месца. У групе дарослых вельмі добра адрэкамендавала сябе салістка «Нараўчанак» Зіна Пацэвіч, якая заняла першае месца (у мінулым годзе яна мела другое месца).

У катэгорыі малодшых вучняў Комплексу школ у Нараўцы першае месца занялі калядоўшчыкі з IV класа, другое — з VI і трэцяе месца — з V класа. У катэгорыі старэйшых вучняў першае месца заняло трыо хлопцаў (Давід Адамюк, Марк Паньхоўскі і Павел Нікалаюк). Першае месца заваявалі юныя калядоўшчыкі з першага класа гімназіі. Трэцяе раўнапраўнае месца заняў гурт «Тры сястры» (яго падрыхтавала інструктарка мясцовага ГАК Кася Бляўская), трыо (Караліна Лясота, Магда Адамовіч і Аня Бляўская) і група хлопцаў з гімназіі.

Журы высока ацаніла выступ на сцэне наймалодшых калядоўшчыкаў з нулявога класа, якіх падрыхтавала апякунка Агнешка Панфілюк. Занялі яны першае месца. Другое раўнапраўнае месца занялі вучні I А (апякунка Аліна Куроўская), I Б (апякунка Аля Васільчык), II (апякунка Анна Байко) і III (апякунка Міраслава Кярсноўская) класаў. Трэцяе месца журы прысвоіла квартэту (Якуб, Ян, Наталля і Габрыся Васільчыкі). Вылучэнне атрымалі маладзенькая салістка Тося Карпюк, дуэт Ада і Луцыя Касакоўскія ды гурты трохгадовых (апякунка Аліна Стульгіс) і чатырохгадовых дзетак (апякунка Лідзія Скепка).

Варта дадаць, што павятовы радны Міраслаў Кульбацкі з Альхоўкі Нараўчанскай гміны даў на ўзнагароды 200 злотых.

На заканчэнне выступаў удзельнікі атрымалі прыгожыя дыпломы з подпісамі членаў журы і грашовыя ўзнагароды. Мерапрыемства арганізавалі Гмінны асяродак культуры і Комплекс школ у Нараўцы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

Летняю парою...

# Жывыя Меляшкі



Адкуль адноўлена святліца пасярод доўгай вёскі Меляшкі ў Гарадоцкай гміне, затупаная пакаленнямі людзей, якія любяць і папрацаваць, і добра, па-свойму, павесяліцца, у вёску вярнулася жыццё. Хаця ў гэтай чыста беларускай вёсцы штораз больш небеларускамоўных людзей і іхніх дзяцей, бо селіцца сюды, у адно з найчысцейшых месцаў «зялёных лёгкіх краіны», штораз больш прышэльцаў з Польшчы. І гэта яны падымаюць на старых падрубах адноўленыя хаты старадаўніх меляшкоўскіх фамілій.

Такі краявід. Больш за паўтысячы гадоў паміж Гарадком і вёскай Меляшкі, што расклалася на старажытным грудзе, была мокрая даліна, кажуць, нават возера. За стадоламі і высяцца два таямнічыя курганы, якія тут называюць «могілкамі». Тую даліну ўявіць няцяжка — узбярыся на тыя «могілкі», і маеш панараму як па вадзе, — аж да залатога купала гарадоцкай царквы. Ведаем з крыніц, што ваколіца мела дачыненне да роду Хадкевічаў. Рыгор Хадкевіч за землі каля мястэчка Васількава, якія перадаў каралю, атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста 22 сакавіка 1567 г. вёскі каля Гарадка — Белявічы, Супрасль Мсцібогаўскую (сёння Зарэчаны) і Меляшкі. Брук старадаўні пасярод вёскі, але абапал яго — ці не першыя на Беласточчыне вясковыя тратуары. Па ім падскокваюць колы аўтамашын, бо аўтобуса сюды не пускаюць. Замала людзей ездзіла, «не аплачваецца» Пэкаэсу гнаць аўтобус для пары чалавек. Нічога, што ўсё ж такі тут лік жыхароў большае. І імпрэзаў больш у адноўленай святліцы, не толькі мярлін. Фірма «Яр-Дом» хвалілася на сваім сайце: у мясцовасці Меляшкі Гарадоцкай гміны выканалі яны рамонт святліцы, які палягаў на яе зносе, абмене старых канструкцыйных элементаў будынка, абмене крокваў, аконнай столяркі, пакрыцця даху, выліцці паласы ўзмацняючай падмурак, мантажы шалёўкі і комплекснай апрацоўцы інтэр'еру». Значыць, аднавілі ад каранёў. Святліцу пасвенцяць святары Астапчук і Каханоўскі, разрэжуць стужку войт Вясlaў Кулеша, дырэктар гміннага цэнтра культуры Юры Хмялеўскі і солтыска Аня Назарка ды радная-спявачка Марыя Врублеўская. Будуць прамовы, віншаванні і абяцанні. Пасля ўсе засядуць за сталы, зайграе капэла «Хутар». Будзе як калісь.

Будзе як калісь, пакуль жылі сястра Янука Дарашкевіча Люба Лавіцкая (дажыла да без двух тыдняў да сотні) і акцёрка ад Тамары Саланевіч Вера Лявіцкая (ціха адышла ў 97 гадоў) і гарманіст ды фокуснік Юрка Дамань, родам з Плянты (памёр у маі 2014 года). Сталі тут і пʼесы, усёй вёскай, але адно з Юркам як... чараўніцай, а жанчыны прадстаўлялі таксама і мужыкоў!

Але каля святліцы, і каля крыжоў, размаляваных „Зоркай" у калёніі Меляшкі і самай вёсцы — ёсць нагода сустрэцца, памаліцца, паспяваць, і пагуляць... І прыходзіцца прыўсім натаптацца, каб багата было, і перад сваімі, і перад гасцямі. На вячорках з песняй, жартам і сцэнкай, на святы. Гэта Лёня Лавіцкая найбольш топчацца пры гасціне, але і Ліля Лотыш, і іншыя. Сёння якраз нагода прыемная, урадлівая — Спленне. Пасля малітваў у гарадоцкай царкве з падзякай за добры ўраджай і малебнам за вёску сабраліся ўсе, хто хацеў і хто дакляўся хоць крышку да бяседы — у той пекнай і выгаднай святліцы. Ёсць і нагода паспяваць ды самому паслухаць — прыедуць «сказачная» Паўліна Казёл з братам Амільянам, спевакі з вядомага гурта. Іх род, па бацьку Адаме (кавалеры ордэна св. Марыі Магдаліны) адгэтуль. Частуемся ў гарачай святліцы, праз расчыненыя вокны вее вецярок ад даліны, і мужыкі пруцца на ўтравелы падворак. Гасцей тут шмат — хто з Варшавы, хто яшчэ больш здалёк. Успамінаецца той час, наймілейшы, калі вёска бурліла. А яны былі маладыя. Але і кніжку хочацца ўхапіць у рукі. Новую кніжку іхняга земляка. А толькі чатыры іх экземпляры ў мяне — «Маркотных зорак» іхняга вяскоўца-«нашаніўца» Янука Дарашкевіча. З кніжкай і выдаўцом яе Сяргеем Чыгрыным яшчэ прыедзем у Меляшкі, на адмысловую сустрэчу са словам земляка. А цяпер тую маленькую бела-сіненькую кніжачку з беларускім радном на вокладцы адзін аднаму вырывае з рук. Зборнік надрукаваны ў Мінску ў выдавецтве «Кнігазбор», высілкам рэдактара, які руплiва пазбіраў тэксты адкуль мог. Чакаў свайго чытача сотню гадоў.

— Гэта ж Любін брат, Тамашышын, хата ў іх нумар 19, як рукой падаць... Кажаце, сто гадоў мінула, як ён яе дасылаў быў у выдавецтва... А чаму яе не ў нас выдалі, а ў Мінску?

Мала хто ведае пра тутэйшага паэта. Паўтараю за Янкам Саламевічам: «Сцяпана Пятэльскага (Арла) з Гарадка і Янука Дарашкевіча (Каршуна) з Меляшкоў можна смела называць пачынальнікамі новай беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя, пачынальнікамі шчырымі і таленавітымі. І памяць пра іх у нашым народзе павінна быць дзейснай і жывой. Іх літаратурная спадчына служыць нашай літаратуры, беларускай культуры. Яна — яшчэ адна цаглінка, выкладзена ў падмурак беларускага прыгожага пісьменства яшчэ разам з Янкам Купалам і Якубам Коласам». Іван Канстанцінавіч Дарашкевіч (Янук Д.) нарадзіўся ў 1890 г. у в. Меляшкі недалёка ад Гарадка ў тагачаснай Гродзенскай губерні ў мнагадзетнай сялянскай сям'і. Бацькі Івана мелі 8 гектараў зямлі і 7 дзяцей, сярод якіх Іван быў старэйшы. Пачатковую адукацыю атрымаў у роднай вёсцы, потым вучыўся ў Гарадку, дзе пасябраваў з аднагодкам Сцяпанам Пятэльскім — будучым паэтам М.Арлом. Яны разам вучыліся ў настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, якую скончылі ў 1909 годзе. У 1914 годзе паэт сабраў быў рукапіс сваіх вершаў пад назвай «Абразкі» і дасылаў у «Нашу ніву», маючы намер выдаць зборнік асобнай кніжкай. Але зборнік паэта так і не выйшаў у свет. Пачалася Першая сусветная вайна, і восенню 1914 г. Іван Дарашкевіч быў мабілізаваны ў царскую армію і накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Доўгі час думалі, што Янка Дарашкевіч загінуў, але пазней выявілася, што паэт вый шаў з вайны жывым. Як сцвярджала яго сястра Люба, непасрэдна пасля грамадзянскай вайны вярнуўся ён разам са сваёй сям'ёй — жонкай Кацярынай і дзвюма дочкамі Нінай і Людмілай у родную вёску Меляшкі, якая ўжо ў той час была ў складзе Польшчы. Тут знайшоў разбураную гаспадарку і мізэрныя перспектывы... Большую частку жыцця пражыў Іван Дарашкевіч у Варонежы. З Варонежа пайшоў на фронт. Загінуў у баі ў ноч з 23 на 24 лютага 1943 г. каля вёскі Фецішчава Арлоўскай вобласці...

Вершы Янука Дарашкевіча, якія ўвайшлі ў кніжку «Маркотныя зоркі», сабраную Сяргеем Чыгрыным, паходзяць з розных друкаваных і архіўных крыніц — з архіўнай папкі, іншыя, якія друкаваліся на старонках «Нашай нівы» ў 1909-1914 гадах і іншых беларускіх выданнях. У Меляшках з сястрой Янука, Любай, вядомай рукадзельніцай, сустракаліся былі даследчык Юрка Туронак і доктар Юрка Геніюш, таксама збіральнік народных старажытнасцей. А маленькую, працавітую, руплівую «бабу Любу Тамашыху» памятаюць усе. Ведаюць і яе сына Яна, і ўнукаў, якія не пакідаюць хаткі з нумарам 19. Паўлік Грэсь зняў быў Януковага сестрынца пад тою хаткай. Яна,



Забярэм Янука ў Варшаву!

шкода, у апошні час страціла шмат з таго, што захавала баба Люба і што мог памятаць яшчэ яе брат... Тут раптам усе меляшкоўцы гатовы прабегчы пару дзясяткаў метраў за святліцу, дзе тая хатка стаіць. Я памятаю ейную гліняную белую печ, самаробную шафу, шкапчык з люстрам, тканыя радзюжкі і пакрывалы, ручнікі, паяскі... Працу рук «Каршуновай» сястры. Чытаем вершы:

Гэтак будзе са мной.
Ціхай цёплай вясной,
Як той сончык, я свега хачу.
А як прыйдзе пара, згасне жыцця зара,
Як і ён, я навек замаўчу...

І слёзы ў вачах у бяседнікаў... Як хутка ўсё прамінае. Няма ўжо вялікай школы, поўнай моладзі і дзяцей, не бурчаць трактары на палетках. Але жыве вёска Меляшкі ў сецівe. Мае яна там сваю старонку па-польску і па-беларуску. Штодзень дапаўняецца здымкамі з сямейных архіваў. Шкода, што мала хто ўжо распазнае асобы на іх. Але азываюцца выхадцы з вёскі з усяго свету, нават з другога зямнога паўшар'я. І гераіняй бывае яна фільмаў, альбомаў, вершаў — так мясцовасць, як і яе людзі. Як у маім вершы:

Пяцьсот гадоў таму паміж/Гарадком і Меляшкамі/было возера./Сухая пара./Вакол дамоў/памерлых гаспадынь гарэць кветкі./Блакітная поўня./Паўстагоддзя пасля пасадкі/на Месяцы/Жывая вёска Меляшкі гуляе/ля свайго крыжа/перад канцом свету.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Адзінокая сярод сваіх

**— Распазнаеце маю хату па пад'ездзе для інвалідаў, — тлумачыць па тэлефоне, — дзверы будуць адчынены.**

**Напярэдадні вігілійнай вячэры паводле юліянскага календара наш тыднёвік сустрэўся з Галінай Матэйчук у яе цёплым гарадоцкім памяшканні. Зараз жа жанчына запрапанавала міску гарачага супу і жменьку ўспамінаў свайго насычанага падзеямі жыцця.**



Нарадзілася яна ў Гарадку ў 1933 г. Пасля заканчэння пачатковай школы паехала вучыцца ў Люблін, дзе атрымала атэстат сталасці. Магістарскую дысертацыю абараніла ў Галоўнай школе замежнай службы, у якой вучылася на дыпламатычна-пасольскім факультэце. Паслядыпломныя курсы адбыла на СГПіС — цяперашняй Вышэйшай гандлёвай школе ў Варшаве і ў Вышэйшай партыйнай школе ў Маскве. З'ездзіла на курсы міжнароднага права ў Гаагу. Працоўную кар'еру пачала з малодшага рэферэндара ў Генеральным консульстве ў Марселі. Была консулам у Ліёне, Ліль, Капенгагене, Кёльне і Маскве. На пенсію адышла з тытулам саветніка міністра.

*— Вашыя асацыяцыі са словам „Каляды"...*

## Да вайны

— У дзяцінстве на вігілію заўсёды мы ішлі да дзядоў на вуліцу Кашаровую (Казарменную). Жылі яны бедна ў адным пакойчыку з кухняй. Ёлак тады не было. Дзед прыносіў жытні сноп і ставіў яго ў куце на кухні. Раскладаў сена на стале, якое выцягвалі з-пад абруса ў час вячэры і мералі, каб даведацца колькі каму жыцця засталося. Кароткая сцябліна прадказвала кароткае жыццё, доўгая — доўгае. Дзед заўсёды гаварыў, што ў вігілійную ноч ягоная жывёла размаўляе людскім голасам. З году ў год я абяцала сабе дачакаць поўначы, тым больш што была ў мяне сяброўка — каза. Але калі раптам запоўніш выпашчаны страўнік, вельмі спаць хочацца. Таму з казой пагаварыць ніколі не атрымалася. На вігілію спажывалі куццю, значыць панцак з мёдам, разынак тады не было. Затое быў кампот з сухіх яблыкаў, груш, вішань і ягад. Усе елі аўсяны кісель, а мне зусім не хацелася. Але і я, будучы студэнткай, да кісялю пераканалася. Бабуля варыла надта смачны боршч з сушаных грыбоў і бульбы нарэзанай у вузкія палосачкі. Кожную восень дзед прыносіў дахаты кошыкі грыбоў. Ніколі іх не мыў. Тлумачыў, што сасновыя іголкі прыбаўляюць ім арамату і смаку. Усё кідаў у драўляны цэбрык і пасыпаў такой брыдкай соллю. Зімой бабуля іх мачыла, пякла грыбныя катлеты і варыла капусту з грыбамі. Былі таксама дражджавыя аладкі, якіх смажылі ў неачышчаным густым, карычневым рапсавым алеі. Выраблялі яго ў гарадоцкім млыне. Аладкі смажаныя ў такім алеі былі горкія. З даваеннымі калядамі звязаны таксама арамат абкручаных тонкай паперай апельсінаў. Іх прывозіў мамін брат, які працаваў на фабрыцы ў Супраслі. Помню яшчэ вялікія сані, якімі дзед вазіў нас, чацвярых дзяцей, на рынак, дзе сёння знаходзіцца парк. Ездзілі мы туды, каб паглядзець вялікую прыгожа адзетую ёлку.

## Вайна

— У Гарадку немцы зрабілі гета. У сувязі з гэтым пачаліся перасяленні людзей і голад. Да нас прыйшла жыць „прышываная" бабуля Параска са сваёй сям'ёй. Аднойчы бабуліны сваякі з непадалёкай вёскі Зялёна прывезлі кусок свойскай каўбаскі. Завісла яна на самым верху святочнай ёлкі. На ёлцы былі таксама яблыкі, аладкі і папяровыя птушкі, якіх мама зляпіла з паперы і мучна-вадзянога клею. Арамат свойскага мяса разышоўся па цэлай хаце. Пачалі мы прасіць бабулю, каб дала хоць па кавалачку. Каўбаску раздзялілі на першы дзень каляд.

## Пасля вайны

— Паехала я ў свет — спачатку на вучобу, потым на працу. Бывала, што і каляды прыходзілася святкаваць далёка ад хаты ў кампаніі каталікоў ці модных тады атэістаў. Ніколі я не адчувала сябе там адзінокай. У консульстве ці пасольстве заўсёды ладзілі мы супольную вячэру. Жонкі маіх супрацоўнікаў асабіста варылі ўсе святочныя стравы. Я прыносіла фрукты. Будучы ў Маскве, я любіла хадзіць на службу ў маленькую царкоўку, якая знаходзілася на ўзгорку насупраць універсітэта Ламаносава. У сярэдзіне гэтай казачнай царкоўкі нават зімой было цёпла. Яе не закрылі дзякуючы легендзе пра Кутузава, які, ідучы ваяваць з Напалеонам, у ёй маліўся.

У варшаўскі перыяд няраз на вігілію рыхтавала я вялікую міску салата з гарадоцкіх соленых грыбоў. Салат заўсёды карыстаўся вялікай папулярнасцю на сталічным дыпламатычным стале.

Зрабіць салат вельмі проста. Трэба толькі адварыць грыбы — зялёнкі, падгрыбкі, баравікі — і пакласці іх у каменны гаршчок. Пасаліць і зверху прыцiснуць каменьчыкам. Потым праз некалькі дзён вымачыць іх і на ўсякі выпадак яшчэ раз некалькі мінут варыць. Калі астынуць, дробна нарэзаць і вымешаць з дробна нарэзанай цыбуляй і смятанай.

## Сучаснасць

— Я — адзінокая, таму цяпер святкую адна. Нават у царкву няма як увайсці, бо перабудавалі царкоўны пад'езд для інвалідаў. Я ўжо з гэтым пагадзілася. А ў людзей прасіць дапамогі не хочацца. Калісь мітрапаліт Васіль сказаў мне, што Бог ёсць усюды, а памаліцца можна і ў хаце. Звычайна гляджу святочныя службы па тэлевізары.

*— Ці для Вас важнае свята Нараджэння Гасподняга?*

— Гэта такі звычай, які нават прызнаюць атэісты. Вядома, дата нараджэння Хрыста — умоўная. Ніхто дакладна не ведае, калі Ён нарадзіўся. Галоўная тут вера, яна дапамагае ў жыцці. Важнае таксама, каб шанаваць традыцыі суседзяў. Не ўяўляю сабе выконваць цяжкую, фізічную працу ў час каталіцкіх Каляд.

*— Вашы навагоднія пажаданні?*

— Як найбольш здароўя і каб хатняя тэхніка не псавалася.

**Іаанна ЧАБАН**

# Па гарачых слядах

Цераз частку вёскі Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны бяжыць павятовая дарога № 1635B. Паабапал гэтай дарогі-вуліцы стаяць старыя ды сухія дрэвы. Падчас ветру з іх на асфальтавае палатно падаюць спарахнелыя галіны. Тады небяспечна ехаць сюдою.

1 верасня 2014 года солтыс Новага Ляўкова на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы папрасіў, каб ссячы сухія дрэвы ў прыдарожнай паласе ў Ляўкове. Войт гміны прашэнне солтыса накіраваў у Праўленне павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы. 13 кастрычніка мінулага года адтуль прыйшоў адказ, што ППД агледзела старыя ды сухія дрэвы і напіша да войта, каб той даў дазвол на іх ссячэнне.

Далей усё заглухла. У міжчасе аднасяльчане солтыса выбралі радным і ён 15 снежня 2014 года на сесіі Гміннай рады вярнуўся да прызабытай справы. Войт зноў піша да ППД: «Uprzejmie informuję, że na sesji Rady Gminy Narewka w dniu 15 grudnia 2014 roku radny ze wsi Lewkowo Nowe Pan Jan Ciełuszecki wnioskował o przyspieszenie wycinki starych drzew przy drodze powiatowej w Lewkowie Nowym. Wniosek był już wcześniej zgłaszany (...)».

Кіраўнічка ППД інж. Крыстына Мішчук чакала зноў месяц і 14 студзеня 2015 года адпісала: «W odpowiedzi na pismo znak Or.0003.03.2014 z dnia 16.12.2014 r. oraz w nawiązaniu do pisma znak DT.6131.40.2014 z dnia 13.10.2014 r. w ww. sprawie Zarząd Dróg Powiatowych w Hajnówce informuje, że wnioskiem znak DT6131.2.3.2015 z dnia 14.01.2015 r. wystąpił do Wójta Gminy Narewka o wydanie decyzji zezwalającej na usunięcie usychających drzew z pasa drogowego drogi powiatowej».

16 студзеня гэтага года гмінны радны патэлефанаваў войту Мікалаю Павільчу ў Нараўку і спытаў, калі можна спадзявацца ссячэння сухіх дрэў у Новым Ляўкове. Не раней як вясной, пачуў ён у адказ.

Магчыма, што кіраўнічка ППД у Гайнаўцы пачакае, як гэта ўжо заведзена, зноў месяц і на двары будзе стаяць ліпень. Тады адпіша, што, моў, будзем сячы тыя дрэвы і зноў справу адтэрмінуе на месяц. Тады ўжо будзе сакавік. І вясна прыйдзе. Пяць месяцаў цягнецца справа і канца не відаць! Падчас зімовае віхуры сухое голле спадае на галовы прахожых. Галіны сям-там ляжаць на асфальце і самаходы раструшчваюць іх коламі. Калі будзе калецтва, тады, мабыць, прыспешаць справу. Хто як хто, але солтыс і заадно радны з Новага Ляўкова перажывае, трывожыцца, што справа так доўжыцца.

**(яц)**

# Ваўняная нітка на руцэ

Ваўняная нітка нейкім чынам уплывае на капілярны кровазварот, бо запаленчая рэакцыя пачынаецца з запаволення капілярнага крывацёку. Ваўняная нітка таксама служыць крыніцай невялікай статычнай электрычнасці.

Ходзіць шмат міфаў пра тое, што даўным-даўно гэта прыдумалі чараўнікі і магі. Але на самой справе гэта ўсяго толькі народная медыцына. Ваўняная нітка павязаная вакол запясця паляпшае кровазварот, паскарае гаенне ран і парэзаў на руцэ, дапамагае пры расцяжэнні сухажылляў. Калі яе зняць, сустаў можа балець яшчэ некалькі гадзін. Ваўняная нітка дапамагае ад болю не толькі ў суставах рук і ног.

Чаму ваўняная? Самым здаровым, гігіенічным і выдатна тэрмарэгулюючым матэрыялам лічыцца поўсць. Яе структура дазваляе скуры дыхаць. Мала таго, яна валодае гаючымі ўласцівасцямі. Здаўна людзі пазбаўляліся ад зубнога або галаўнога болю, ад боляў у паясніцы, прыкладваючы да хворых месцаў натуральную, неафарбаваную поўсць. У даўніну неданошаных дзяцей клалі ў авечую воўну. Справа ў тым, што валокны натуральнай, неафарбаванай воўны, састрыжанай з жывой жывёлы і не апрацаванай ніякімі хімікатамі, пакрытыя жывёльным воскам-ланалінам, які складае да 12 працэнтаў вагі воўны. Гэта каштоўнае рэчыва спецыяльна здабываюць, каб выкарыстоўваць у якасці асновы для касметычных крэмаў і мазяў. Калі выкарыстоўваць у пасцелі натуральную воўну, то змешчаны ў ёй ланалін, які раставараецца пры тэмпературы 35-37°C (тэмпература цела), лёгка пранікае ў скуру. Ён дабратворна дзейнічае на мышцы, суставы, пазваночнік, здымае боль і стымулюе кровазварот. А каэфіцыент цеплаправоднасці ў воўне ніжэйшы, чым у многіх тэкстыльных матэрыялаў.

Чаму чырвоная? Справа не ў колеры. Вось гісторыя чырвонай ніткі. Калі якая-небудзь адна думка або адзін настрой пранізвае ўсю прамову прамоўцы, або адчуваецца ў літаратурным творы, або зноў і зноў узнікае ў дзейнасці чалавека, кажуць: «Гэта ў яго заўсёды чырвонай ніткай праходзіць». Чаму менавіта чырвонай, а не белай або сіняй? Адкуль узяўся гэты вобраз? Аказваецца, ён увайшоў у мову некалькіх народаў з вельмі нечаканай галіны — з мовы англійскіх маракоў канца XVIII стагоддзя. З 1776 года, па загадзе Адміралцейства, ва ўсе канаты англійскага ваеннага флоту на фабрыках пачалі ўплятаць на ўсю іх даўжыню адну нітку — чырвоную. Уплялі яе так, што выцягнуць нітку можна было, знішчыўшы ўвесь канат. Такім чынам, які б малы кавалак ад каната не быў адрэзаны, заўсёды можна было пазнаць, што ён флоцкі. Вось адсюль і пайшоў звычай казаць пра чырвоную нітку як пра самую сутнасць, пра пастаянную прымету. У славян, каб засцерагчы ад сурокаў, насілі на руках і нагах суконныя ніткі, завязаныя ў тры вузлы. Чырвоная нітка на руцэ служыць засцерагальным талісманам. У радзінных абрадах чырвоны колер надзяляецца семантыкай пераходу, сімвалізуе жыццё, здароўе і як сімвал сілы выконвае ахоўную функцыю: толькі што народжанае немаўля абвязваюць чырвонымі ніткамі. У пахавальнай абраднасці чырвоны колер абазначае прыналежнасць да іншага свету і адначасова абараняе ад небяспекі, якая зыходзіць ад яго. Нябожчыку навязвалі чырвонай ніткай рукі і ногі, труну некалі разоў з канца ў канец абмотвалі чырвонай ваўнянай ніткай.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі



# Свабода важная не толькі ў жыцці людзей!

Інтэрв'ю з **Каралінай Каравай**, лаўрэаткай першага месца ў конкурсе «Дэбют». Камісія палічыла апавяданне «Максім і Сашка» найлепшым празаічным творам у сёлетнім конкурсе. Караліна — вучаніца першага класа Гімназіі ў Нараўцы.



**«Зорка»:** *Тваё апавяданне «Максім і Сашка» пра сяброўства чалавека і каня. Твой герой «Максім» такі «наш» чалавек з-пад пушчы. Ці Ты пакарысталася знаёмым вобразам ці проста ўсё прыдумала?*

**Караліна Каравай:** — Гэты герой ад пачатку да канца прыдуманы, але я не хаваю таго, што такі чалавек вельмі мне падабаецца. Я таксама атаясамліваюся з ім, гэта такое маё *альтэр-эга*.

**З:** — *Твой герой гаворыць, што ў жыцці найважнейшая свабода...*

**КК:** — Свабода гэта не толькі наш вольны выбар, гэта таксама жыццё без крыўды, без болю, без роспачы. Свабода важная не толькі ў жыцці людзей. Яна таксама важная ў жыцці звяроў, у жыцці прыроды.

**З:** — *Што траціць чалавек, калі парывае кантакт з прыродай?*

**КК:** — Я сама вырасла ў вёсцы, блізка прыроды, таму думаю, што жыццё без сяброўства з прыродай не бывае сапраўдным, яно не мае таго смаку і прыгожасці.

**З:** — *У чым заключаецца гэтая сапраўднасць?*

**КК:** — Прырода ўспрымае мяне такой, якая я ёсць у сапраўднасці. Яна не патрабуе ад мяне ігры, падману, непатрэбных эмоцый. Наадварот, яна дазваляе заглянуць у глыбіню сваёй душы, прывесці ў раўнавагу.

**З:** — *Ці часта ходзіш у пушчу?*

**КК:** — Вельмі люблю хадзіць у пушчу. Гэтага навучыў мяне дзядуля. Ён паказаў свае сцежкі і месцы. Можна сказаць, што на пушчу гляджу крыху яго вачыма, ведаю, што там чалавек не самы галоўны, што ёсць там свой парадак і тайны прыроды.

**З:** — *Якія чытаеш кніжкі?*

**КК:** — Люблю чытаць прыгодніцкія кніжкі, фантастыку, кніжкі пра жыццё грамадства і асабліва пра жыццё звяроў і прыроды. Да конкурсу заахвоціла мяне інфармацыя ў «Ніве» і асабіста настаўніца беларускай мовы. Раней прозы я не пісала.

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

**Караліна КАРАВАЙ**, *Гімназія ў Нараўцы*

## Максім і Сашка (ч. 1)

Быў верасень. Прыйшла прыгожая, залатая восень. Лісце на дрэвах ужо пажоўкла, а травы страцілі свой даўні зялёны колер. Аднак, нягледзячы на халаднейшыя і карацейшыя дні, адчувалася яшчэ прыемнае, летняе цяпло. Не так даўно людзі закончылі жніво і іншыя палявыя працы і прыйшоў час на адпачынак для гаспадароў і ніў. Затое ў лесе настаў восеньскі ўраджай. Грыбы абрадзілі як ніколі і таму лясы запоўнены былі грыбнікамі.

Максім, як большасць людзей у гэты час, выбраўся ў пушчу. Забраў з сабой кош і стары, іржавы ножык. Ён быў вельмі сантыментальным чалавекам і не мог пакінуць старую памятку, якую атрымаў ад сябра. Падарунак быў амаль такі самы стары як ён. Мужчына добра памятаў той дзень, калі сябра даў яму гэты скарб. Памятны дзень, калі ён у бальніцы змагаўся за сваё жыццё. Хвіліна прабуджэння... пасля складанай аперацыі і страшэнны боль у назе. Так, Максім добра памятаў гэтую хвіліну, калі скончылася яго прыгода з верхавой яздой. З таго дня на від каня авалодвала ім трывога, а калі думаў аб гэтай падзеі, сэрца паліла агнём, а ў назе, на якую ён будзе накульваць да канца жыцця, паяўляўся рэзкі боль.

Думаючы, ён дайшоў да месца, якое рэдка наведвалі людзі. Толькі некаторыя паляўнічыя не баяліся заходзіць у гэты гушчар. Няраз чуў ён аповеды пра людзей, якіх расшарпалі ваўкі або з'елі нейкія звяры. Раптам яго думкі перарваў крык. Аднак гэта не быў крык чалавека, гэта не быў віск, не быў таксама голас нейкай жывёлы, Максім прынамсі такога гуку да гэтай пары не чуў. Максім успомніў даўнія аповесці маці, якая палохала яго чараўніцамі, што жывуць у самых недаступных нетрах пушчы. Стаіўшы дыханне, ён прыслухоўваўся, але настала глухая цішыня, яшчэ страшнейшая ад крыку. Неўзабаве ва ўсёй пушчы раздаўся стукат конскіх капыт.

Між дрэвамі ён убачыў жывёлу, якая гналася ўперад. Максім інстынктыўна хапіўся рукамі за галіну сасны і хутка падцягнуўся ўверх. Калі стаяў ужо даволі высока над зямлёй, убачыў зграю галодных ваўкоў.

Конь, агромны, спалоханы, чорны конь, з грукатам упаў на зямлю. Усё адбывалася некальнокі метраў ад Максіма, а ён глядзеў, як банда дзікіх забойцаў кінулася на каня. Глядзеў вялікімі вачыма, як вострыя зубы рвуць скуру, затапляюцца ў цела безабароннай істоты.

Максім апрытомнеў толькі тады, калі пранізлівы віск перарваў злоснае вурчанне ваўкоў і цішыню пушчы. У гэты раз гэты голас быў перапоўнены болем, страхам і цярпеннем. Мужчына скочыў на зямлю, схапіў дзве доўгія галіны і ўдараючы адна аб другую пайшоў на ваўкоў. Шэрыя драпежнікі, якіх вочы ў гэтай глушы здаваліся яшчэ страшнейшымі, відна не чакалі такой сітуацыі, бо хутка павярнулі ў лес, пакінуўшы сваю здабычу...

(працяг будзе)

*Вераніка КАРДЗЮКЕВІЧ*
*Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

## Сторож

*Калі я нарадзілася,*
*Бог вызначыў мне стоража.*
*Ён за мною наглядае,*
*Дапамагае адрозніваць чорнае ад белага.*
*Ён са мною ў летні дзень і зімовую ноч.*
*Сярод смутку і шчасця.*
*І калі прыйдзе час майго адыходу,*
*Мы разам перад Найвышэйшым станем.*
*З першага да апошняга тхнення — мой сторож і я.*

**Загадкі з роднай хатні**

## Увага, конкурс!!! (№ 6-15)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 15 лютага, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Звер вядомы ён усім —
і старым, і дзецям:
Футра цёплае на ім,
А завуць
М.......

**2.**
Маленькія лапкі,
на лапках драпкі,
ціхенька ступае,
мышак шукае.
К..

**3.**
Віселі на градцы
Сакаўныя братцы
Доўгія, шурпатыя,
Вітамінаў шмат у іх.
А.....

**Адказ на загадкі № 2-15: сняжынкі, мароз, пруткі.**

**Узнагароды, фламастэры, выйгралі Міхал Тапалянскі, Карнэля Порац з Нарвы, Іаанна Рута з Гайнаўкі, Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Чытанка па-беларуску: «Жыў дзед, жыла бабка»

Хто любіць казкі? Усе! Гэта літаратура не толькі для малых. Многія бацькі любяць чытаць іх да падушкі дзеткам. Тады разам перажываем прыгоды, вяртаемся ў часы дзяцінства. Там усё мае сваё месца і свой справядлівы канец. У казцы ўсё сказана, з яе плыве навука як паводзіць сябе з іншымі людзьмі ў жыцці. Важны таксама свет звяроў і раслін, паветра, камяні, вада, сонца і вецер, бо ўсё, што на свеце, дапамагае добрым героям. Гэта падказка як жыць у гармоніі з прыродай...

У беластоцкай гімназіі № 7 наладзілі адмысловы конкурс чытання казак пад лозунгам «Жыў дзед, жыла бабка». Моладзь сама падбірала казкі. У першым выпуску конкурсу, які адбыўся 22 студзеня, прынялі ўдзел амаль усе навучэнцы беларускай мовы. Першае месца заваяваў трэцякласнік **Ясь Конюх**, другое — **Дар'я Рудчук** (II клас), а два трэція месцы былі назначаны **Якубу Хаманюку** і **Шыману Заброцкаму**. Ідэя конкурсу каштоўная — гэта адзін з нашых конкурсаў, які ставіць важны выклік для навучэнца беларускай мовы: самастойная чытанка. Конкурс прыдумала і ў Гімназіі № 7 ажыццявіла настаўніца Альжбета Рудкоўская.

**(гак)**

Удзельнікі конкурсу

Пераможца – Ясь Конюх

# НАДТА ДАРАГОЕ ЛЯКАРСТВА

## *(таджыкская казка)*

Ішоў аднойчы дарогай чалавек. Ён надта стаміўся, згаладаўся ды, як на злосць, у яго не было грошай. Што тут рабіць? Зайшоў ён у першую хату, што стаяла ля дарогі, і кажа гаспадыні:

— Дайце паесці, інакш пamру з голаду!

Чалавек прызнаўся, што ў яго няма грошай.

— Аднак я ведаю рэцэпт на адно надта добрае лякарства, — дабавіў. — Яно дапаможа нават паміраючаму.

— Цікава, — адказала гаспадыня, — век жыву і не чула пра такое цуда.

— Я нікому пра гэта лякарства яшчэ не гаварыў, — адказаў чалавек. — Як памру з голаду дык разам са мной памрэ тайна. Народ не даведаецца пра надта каштоўнае лякарства.

Гаспадыня дала павячэраць. Калі чалавек акуратна пад'еў, устаў з-за стала, а яна ўручыла яму лісток паперы і пяро:

— Ну, цяпер ты пішы свой рэцэпт!

— Не трэба пісаць майго рэцэпта, — адказаў чалавек. — Хадзі, я табе пакажу. Сама пабачыш.

Госць і гаспадыня выйшлі з хаты і ідуць па дарозе. Чалавек маўчыць, а гаспадыня пачала хваляваца.

— А ці хутка будзем на месцы? — пытае.

— Хутка! Неўзабаве атрымаеш рэцэпт проста ў рукі.

Ішлі яны доўга ці коратка, аж наблізіліся да поля, дзе вырошчвалі рыс. Чалавек спыніўся.

— Вось яно, лякарства! Яно выратавала жыццё многім людзям. Падумай толькі: як жыць на свеце без рысу? Мы ўсе даўным-даўно памерлі б.

Гаспадыня здзівілася: усё здавалася настолькі проста. Яна глядзела на рысавае поле, быццам першы раз яго пабачыла. А чалавек дадаў:

— Гэтае надта каштоўнае лякарства ўратавала ад смерці шмат людзей. Яно даражэй золата, таму што дамагае пражыць на белым свеце. Ты, даражэнькая гаспадыня, пастарайся, каб мець як найбольш гэтага жывога золата!

Чалавек пакланіўся жанчыне і пайшоў сваёй дарогай.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**

# Польска-беларуская крыжаванка

№ 6 – 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2:**

Кітай, звычка, ар, пярына, сон, раб, палкі, на, шалі, літ, вуха, мяса, кабалістыка. Ігра, шуба, пах, Ала, яслі, зрок, вынік, сын, чар, ля, аніс, гарбата.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магда Рошчанка**, **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага, **Марыя Варанчук**, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Караліна Трусевіч** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Наталля Лукша**, **Магдалена Стоцкая**, **Уля Марчук** з Нараўкі, **Клаўдзія Ніканчук**, **Наталля Петручук** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Sto / Tygrys | Obrona / Grupa | | | | | | | | Humor |
| | | | | Wrzątek / Strąk | | As | Numer | | | |
| | Ryż / Dysza | | | | Rosa | Etap | | | | |
| Spotka-nie | | | | | | | | | | |
| Aparat | | | | | | | | | Art | |
| | | | | | | | Uch | Ar | | |
| Pokusa / Koło | | | Kaptur | | | | | | | |
| | | | | | | | Kto? | | | |

# Вершы Віктара Шведа

## Круглая зямля

Настаўнік вучняў пытае:
— Якую форму зямля мае?
— Круглую, вядома, —
Адазваўся Фома.

— А чым даказаць
ты можаш —
Зямля мячыкам прыгожым?
— Глобусам да геаграфіі,
Што стаіць на нашай шафе.

## Маладыя вудзільшчыкі

Ля вялікае ракі
Ловяць рыбу сябрукі.
Вось вудзільшчык малады
Ляшча выцягнуў з вады.

Ён кінуўся на усе бакі,
Не даецца да рукі.
— Як схапіць яго, Андрэй?
— Утапі яго хутчэй.

## Ішоў запаволена

Лекар вучня запытаў:
— Пад машыну ты папаў?
Вінаваты самаход?
Церпіць праз яго народ.

Ён, відаць, захутка ехаў
І такія вось агрэхі.
— Не, таму я нездароў,
Што запаволена ішоў.

## Не рабіў бы нічога

Спыталася Даротка:
— Калі б ты магчыма
Выйграў мільён у Лётка,
Што зрабіў бы з грашыма?

Сказаў на гэта Жэня:
— Калі б я так многа
Меў грошыкаў у кішэні —
Не рабіў бы нічога.

# На Падляшшы гэта сур'ёзна, або Шчодрык у прамым эфіры

**Падляшукі могуць сябе называць беларусамі, рускімі ці палякамі — не так важна, бо цяпер ці не галоўнай прыкметай тутэйшых з'яўляецца традыцыя ды веравызнанне. Праваслаўе — гэта той стрыжань, які і аб'ядноўвае, і дапамагае канчаткова не растварыцца ў шэрагах польска-каталіцкай, калі можна так сказаць, большасці.**

Таму ўсе праваслаўныя святы тут адзначаюць масава і паважліва. Але калі наконт Божага Нараджэння ці Вялікадня чалавеку з Беларусі тут няма нічога дзіўнага, то шырокім святкаваннем Старога Новага года падляшукі яўна ад нас адрозніваюцца. Гэта становіцца відавочным пасля прысутнасці на „Святочным канцэрце пажаданняў" у рэдакцыі Беларускага Радыё Рацыя.

## Любімыя перадачы падляшукоў

Канцэрты пажаданняў — звычайная з'ява на некаторых тэлеканалах і радыёстанцыях. Напрыклад, вялікай папулярнасцю заўсёды вызначалася праграма „Прыміце віншаванні" на берасцейскім канале Буг ТВ. Прыкладна тое самае, толькі ў радыйным фармаце, прысутнічае і на Радыё Рацыя. Перадача ідзе кожную суботу і называецца „Падляшскі канцэрт пажаданняў". На праваслаўныя Каляды, Вялікдзень і Шчодры вечар (у праваслаўнай традыцыі — Стары Новы год) транслююцца адмысловыя святочныя выпускі. Інтэлектуала можа здзівіць як даволі прасцецкая праграма з папулярнымі песенькамі тыпу „Вёсачка мая" можа шанавацца слухачом. Але справы выглядаюць менавіта так. Скажам нават больш — колькасць праслухоўванняў радыё падчас „Падляшскага канцэрта пажаданняў" падскоквае ў 4-7 разоў адносна звычайнай колькасці. І гэтая статыстыка тычыцца толькі праслухоўванняў у інтэрнэце, бо колькасць настроеных на пэўную хвалю радыёпрыёмнікаў адсачыць немагчыма.

**Юрка Ляшчынскі**, праграмны дырэктар Радыё Рацыя, калі задумваў канцэрт пажаданняў яшчэ на Радыё Беласток, дзе раней працаваў, пэўна, і не падазраваў, што зададзены фармат стане такім папулярным.

— Першы канцэрт пажаданняў прайшоў на Шчодры вечар 1991 года на Радыё Беласток. Але мы яго вялі па-польску. Потым пазваніў нехта са слухачоў і спытаў ці можна перадаць прывітанне па-беларуску. З 1992 года на такім канцэрце ўжо часткова была беларуская мова. Перадача была вельмі папулярная, званкоў было шмат, хоць яны былі і платныя. Пасля, калі з'явілася канкурэнцыя ў выглядзе Радыё Рацыя, платнай пакінулі толькі першую гадзіну, — распавядае Ляшчынскі.

На сённяшні дзень на Беласточчыне на вялікія святы і Шчодры вечар ажно чатыры радыёстанцыі даюць свае канцэрты пажаданняў, і ўсе яны карыстаюцца попытам.

## „Адусюль, дзе паехалі нашыя людзі"

Шчодры вечар на Радыё Рацыя пачынаецца а шостай па польскім часе. Ужо ў гэты досыць ранні час у Беластоку пачынаюць разрывацца феерверкі. У рэдакцыі апошнімі падрыхтаваннямі да перадачы займаюцца трое вядучых — адзін будзе зачытваць віншаванні, прысланыя на скайп, другі — на паштовую скрыню, а трэцяму вядучаму будуць прыносіць ужо падрэдагаваныя СМС-паведамленні. Плюс да гэтага ў прамы эфір можна патэлефанаваць, прычым гэтая форма камунікацыі ў слухачоў ці не самая любімая. Тэлефануюць, акрамя студыйнага нумара, адразу на ўсе рэдакцыйныя тэлефоны.

Тэлефонная актыўнасць тлумачыцца і тым, што ў час святочных „Падляшскіх




Валянцінка Петручук з мамай Паўлінай з навагоднімі падарункамі

канцэртаў пажаданняў" можна выйграць даволі каштоўныя прызы. Вось і гэтым разам галоўны рэдактар радыё **Яўген Вапа** перадае вядучым стос падарункаў. Іх справа вызначыць як яны будуць размеркаваны. Пра кніжкі дамовіліся адразу — дарыць за лепшыя рэцэпты традыцыйных страў і за аповеды пра жартоўныя шчадрухаўскія псоты. А вось наконт галоўных прызоў — тэлефона, радыёпрыёмніка і навушнікаў — задумаліся. „Давайце, хто пасля поўначы датэлефануецца першым — таму тэлефон. Другому і трэцяму — радыёпрыёмнік і навушнікі", — прапануе **Зміцер Косцін**. „Хоць бы хто са знаёмых

выглядзе, адрозніваюцца ад званкоў не толькі зразумелай аднастайнасцю, але і мовай. Калі тыя, хто датэлефанаваўся ў студыю, гавораць пераважна на сваёй гаворцы, якая часамі вельмі блізкая да беларускай літаратурнай, то пісаць па-свойму ці па-беларуску слухачы не адважваюцца. Задача **Іны Венско** — апрацаваць тэкставыя польскамоўныя паведамленні і перакласці іх на беларускую мову, згодна з унутранымі правіламі Радыё Рацыя. „Здараецца, што пішуць па-беларуску, але гэта звычайна лічаныя паведамленні", — кажа Іна, якая рэдагуе эсэмэскі. На скайп і пошту таксама прыходзяць пера-



Зміцер Косцін і Ганна Шайкоўская

не патэлефанаваў, нават выпадкова", — непакоіцца **Ганна Шайкоўская**. Але прапанову Косціна прымаюць.

Амаль усе званкі і паведамленні ідуць з Падляшша, з Беларусі яны рэдкія. Ёсць пажаданні з ЗША, Канады, еўрапейскіх краін, „адусюль, дзе паехалі нашыя людзі, — зазначае трэці вядучы праграмы **Кастусь Бандарук**. — Яны настальгуюць па доме, і слухаюць перадачу, каб пачуць родныя назвы і імёны ды перадаць прывітанне сваякам і сябрам".

## ...жадае Аня з вуліцы Галавескай

Пажаданні, атрыманыя ў пісьмовым

важна польскія тэксты. Тут вядучым прыходзіцца цяжэй, бо перакладаюць яны іх у прамым эфіры, без дапамогі рэдактуры.

Пры перачытванні паведамленняў мне, чалавеку немясцоваму, кінулася ў вока частая фраза „З новым 2015 годам!". Замест „Са старым Новым годам!", як у нас. Падляшскія беларусы ўжо два тыдні на дзелавых паперах ставяць дату 2015, але настолькі сур'ёзна ставяцца да юліянскага календара, што ў сярэдзіне студзеня віншуюць адзін аднаго тымі ж формуламі, што ўжываюцца ў першую навагоднюю ноч.

Здзівяць нашага чалавека і шматлікія скарачэнні імёнаў у віншаваннях. Тут паўсюль фігуруюць Любы (асабліва часта), Гені, Пётрыкі і Славікі. Каб канкрэтызаваць асобу, тут хутчэй назавуць свой адрас, чым прозвішча. Усяго найлепшага можа жадаць Владэк з Плянты, Магда з Беластока, Аня з вуліцы гэтакай. „Гэта важная інфармацыя, — кажа Кастусь Бандарук, — бо тут і ў адным горадзе могуць быць сотні людзей з аднолькавым імем і прозвішчам".

Жадаюць на Падляшшы, як і ў нас, „усяго найлепшага" і перадаюць „гарачыя пажаданні". Калі віншуюць з народзінамі, — а яны здараюцца і на Шчодры вечар, — то нярэдка заканчваюць прамову словамі „Многая лета!".

У вусных пажаданнях творчасці, канешне, нашмат больш, але і тут вылучу адну характэрнасць — імкненне аўтара згадаць у пажаданні ці не ўсю радню. Спіс, да каго адрасуюцца „гарачыя пажаданні", часам бывае такі доўгі, што міжволі гадаеш: ці то ў чалавека такая цудоўная памяць, ці ён загадзя падрыхтаваў сабе пісьмовую падказку. У любым выпадку гэта дазваляе меркаваць аб адкрытасці падляшскіх беларусаў, якія не замыкаюцца на самых блізкіх людзях, а стараюцца падарыць прыемныя хвіліны ўсім, каму толькі можна.

## Кішка і сцяжынка з попелу

Актыўнасць слухачоў не пакідае сумненняў, што падляшукі Стары Новы год святкуюць не фармальнасці дзеля. Значную частку пісьмовых паведамленняў вядучыя так і не паспеюць прачытаць за 8 гадзін эфіру, а на тэлефоне лінія занятая настолькі, што тыя, каму пашчасціла датэлефанавацца, скардзяцца: „Ужо пальчыкі баляць набіраць і набіраць нумар".

Зразумела, што ўрбанізацыя і высяленне людзей у гарады, дзе традыцый прытрымліваюцца менш, чым у вёсцы, актуальныя і ў Польшчы. Таму, расказваючы пра колішнія забавы моладзі ў Шчодры вечар, з вусная старэйшых часта злятае: „У нас тут адны старыя жывуць, няма каму рабіць псотаў". Пад шчадроўскімі псотамі разумеюць тыя ж шкоды, што рабілі і ў нас — здыманне варот, закідванне санак на страху, затыканне коміна, пасыпанне попелам сцежкі ад хаты аднаго каханка да хаты другога. „Але ўсе разумелі, што гэта проста такая традыцыя і жарт, таму крыўдаў ніякіх не было", — запэўнівае адна з кабетак, што дазванілася ў студыю. Як і ў Беларусі, па хатах ходзяць шчадроўскія групы — але таксама толькі там, дзе засталася моладзь.

Так што пераважная частка аўдыторыі Радыё Рацыя Шчодры вечар святкуе толькі вясёлай бяседай. Гаспадыні дзеляцца ў эфіры рэцэптамі традыцыйнай кішкі і ўвогуле на розны манер запечаных мясных вырабаў. „У мяне яшчэ хлебная печ ёсць, — бадзёрым голасам расказвае слухачка. — Туды ўлазіць многа-многа блях. Дык я пяку каўбасы ды кішку для ўсіх дзяцей, яны пасля ў горад бяруць".

У такіх размовах надыходзіць поўнач, і вядучыя эфіру выходзяць са студыі на 20-хвілінны перапынак, каб разам з астатнімі прысутнымі на сядзібе адкаркаваць шампанскае, пакласці ў талерку прынесеныя пачастункі ды адсвяткаваць Стары Новы год. Адзначаюць нават тыя, хто, магчыма, ніколі не рабіў бы гэтага ў Беларусі.

Я ў тым ліку.

**Іна ХОМІЧ**

„Брестский курьер", № 4 (1247) ад 15.01.2015 г.
(фота аўтаркі і з сайта радыё „Рацыя")

# У нашым Татарстане

**У 1972 годзе Сакрат Яновіч быў пісаў: „У Крушынянах аўтобус спыняецца непадалёку татарскай мячэці. Асколак блакітнага Крыму ў паўночных бярозах! Высіцца ў полі старымі дрэвамі татарскі могільнік. Стэпавая маладзеччына спачывае пасярод каласістага прастору ніваў...”. Сорак тры гады таму вакол Крушынян былі каласістыя нівы. Сорак тры гады гэта хуткія два пакаленні — замест каласістых ніў зараз вакол Крушынян паўночныя бярозы ды такія ж сосны, паміж якіх зладжаны тамашнім надляснічтвам г.зв. экуменічны шлях. Гэта сучасная выдумка, дзе ёсць усялякае *mydło i powidło*. Але калі зараз у пашане розныя старадаўнія выдумкі, у тым ліку і легенды, дык хіба і фантастычная крэатыўнасць сучасных аўтараў заслугоўвае нейкага выяўлення ў новых ландшафтных умовах.**



Аўтобус, так як і сорак тры гады таму, надалей яшчэ ездзіць у Крушыняны. З аўтобуснага прыпынку вяртаюся крыху назад — да даволі арыгінальнага комплексу збудаванняў, якога архітэктурныя ўзоры нагадваюць не пасяленчы ландшафт акерманскіх ці паволжскіх стэпаў, але хутчэй за ўсё архітэктуру аўтахтонаў экватарыяльнай Афрыкі. Калі я прыцэліўся шчоўкнуць здымак экзатычных стрэх і каміноў, жанчына, што прыехала тым жа што і я аўтобусам, запрасіла мяне ўсярэдзіну, наўсцяж адкрываючы закрытую дагэтуль браму. У галоўным будынку ўтульненькая сталовая на першым паверсе ды не менш утульныя спальныя памяшканні на другім. Побач кіпіць работа — завяршаецца пабудова двух квадратных у плане двухпавярховых павільёнаў, з прашклёнымі дзённымі памяшканнямі на першых паверхах і непразрыстымі начнымі памяшканнямі на другіх. Далей гаспадыня паказала двухпавярховы лямус, які з'яўляецца вернай копіяй такога ж збудавання ў Каліноўцы-Касцельнай; ёсць і іншыя збудаванні. Усе аб'екты са старых бярвенняў, атрыманых у выніку зносу старых будынкаў у наваколлі... Комплекс у сваёй назве мае прыметнік „татарскі”, таму пацікавіўся я канфесіяй уласнікаў; аказалася, што той татарскі комплекс узводзяць каталікі з Беластока.

Ды не толькі тут кіпіць работа — насупраць мячэці ўзводзіцца Цэнтр мусульманскай культуры, які ў будучыні мае выконваць адукацыйную і абрадавую ролі. Агульны кошт аб'екта, які мае быць здадзены ў карыстанне ўжо сёлета, складзе каля пяці з паловай мільёнаў злотаў. Трэба ж каб Крушыняны выглядалі прыстойна, бо ж тут бывалі, для прыкладу, сын брытанскай каралевы прынц Чарльз ці польскі лыжны „арол” Адам Малыш. Ды хто ведае, якія знатныя госці захочуць завітаць сюды ў будучыні.

Гэта на нашых днях. Ды і даўней было знатна; Слоўнік Каралеўства Польскага так згадваў пра Крушыняны: „Kruszyniany, wś w pow. grodzieńskim, o milę od Krynek, dziedziczna imienia Krzyczewskich Tatarów. Nadał ją król Jan III Samuelowi Krzyczewskiemu, ich przodkowi, który, będąc rotmistrzem chorągwi tatarskiej, w bitwie pod Parkanami przyczynił się do ocalenia życia oswobodzicielowi Wiednia. Wdzięczny król mianował go, prócz tego, pułkownikiem, i udając się z Warszawy na sejm do Grodna r. 1688 wstąpił do Krzyczewskiego na obiad, a powracając z sejmu toż samo uczynił. Wieś, podzielona z czasem między potomków Samuela po mieczu i kądzieli, zamieniła się w okolicę tatarską; ale zostały stare lipy, które przy odwiedzinach królewskich ocieniały dom mężnego wojaka. Prawnucy zaś jego dotąd z religijnem uszanowaniem zachowują prosty drewniany stołek z poręczami, na którym siedział Jan III. Autentyczne dokumenta, pozostałe w ręku Krzyczewskich, są dowodem całego tego zdarzenia”.

Татары сяліліся на нашых землях паступова. Даведнік „Вялікае Княства Літоўскае” так піша пра іх: „Першыя звесткі пра знаходжанне татараў на тэрыторыі Беларусі адносяцца да пачатку 14. ст. Вялікія князі Гедзімін, Кейстут, Альгерд запрашалі татараў з Залатой Арды на службу і выкарыстоўвалі ў барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. У ВКЛ таксама траплялі татары палонныя, знаходзілі прытулак збеглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі трон. Асабліву апеку татарам аказваў Вітаўт, які разлічваў на іх як на ўмелых коннікаў і сяліў пераважна на заходніх межах дзяржавы і ў наваколлі буйных замкаў. Палітыку Вітаўта ў адносінах да Залатой Арды, з мэтай набываць саюзнікаў і для ўмацавання межаў ВКЛ, працягвалі яго пераемнікі. У 15. ст. паміж ВКЛ і татарскімі ханствамі практычна не было войнаў. Нягледзячы на пэўныя льготы і рэлігійную верацярпімасць (свабодна дазвалялася вызнаваць іслам і будаваць мячэці), татары ў ВКЛ не мелі права ўдзельнічаць у выбарах у сойм і мясцовыя соймікі, займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады. За час войнаў другой паловы 17. ст. становішча служылых татар пагоршылася, яны гадамі не атрымлівалі грошай і пад уздзеяннем агітацыі праціўніка ў час вайны з Турцыяй 1672-76 у 1672 узнялі бунт і перайшлі на бок туркаў. Пазней, па амністыі, значная іх частка вярнулася ў Рэч Паспалітую і пасялілася ў раёнах Беластока і Берасця”. Было гэта пры згаданым ужо каралі Яне Сабескім.

Варта яшчэ заглянуць у даўнейшае і больш сучаснае мінулае татараў у больш шырокім свеце. Вікіпедыя: „Państwo tatarskie powstało w IX wieku jako Bułgaria Wołżańsko-Kamska. Mieszkańcy tego kraju przyjęli islam około 922”. Апосталам ісламу ў татараў лічыцца арабскі вандроўнік і пісьменнік Ібн-Фадлан. Прыбылыя ў ВКЛ татары былі ўжо адукаванымі людзьмі — тут яны стварылі шмат літаратурна-рэлігійных твораў на польскай і беларускай мовах, карыстаючыся арабскім алфавітам; найбольш вядомыя з іх — кітабы, якія былі зводам рэлігійных ведаў і даўніх традыцый. Чыста рэлігійны характар мелі тэфсіры, якія змяшчалі тэкст Карана; мусульмане лічылі пераклад Карана на іншыя чым арабская мовы парушэннем асноў ісламу, таму кнігі з такім перакладам называлі тэфсірамі. Далей пра волжскіх татараў: „W 1230/1240 państwo zostało podbite przez Mongołów — wtedy mieszkańcy zostali nazwani Tatarami przez najeźdźców. W latach trzydziestych XV wieku ziemie te stały się częścią chanatu kazańskiego. Gdy w latach pięćdziesiątych XVI wieku car Iwan IV Groźny podbił chanat, wcielił również ziemie tatarskie do Rusi, a część Tatarów zmuszona została do nawrócenia na chrześcijaństwo. W 1593 wyburzono wszystkie meczety na tym obszarze. Zakaz budowy nowych meczetów został zniesiony dopiero przez carycę Katarzynę II, a pierwszy meczet wybudowano dzięki jej wsparciu w latach 1766-1770. Do dziś uznawana jest ona za jednego z najbardziej protatarskich rządców Rosji”. У бальшавіцкі час волжскія татары спазналі не меншыя беды. У 1921-22 гадах у выніку голаду памерла каля паловы тамашніх татараў — каля двух мільёнаў, а ў выніку пазнейшага засялення расейцамі татары сталі меншасцю на сваіх спрадвечных землях. У перыяд „перастройкі” Татарстан, падобна Чачні, аб'явіў незалежнасць ад Расіі, але на гэтай слоўнай заяве спроба самастойнасці скончылася — пры ўладзе апынуўся Пуцін і ўсё вярнулася ў пракладзеныя апрычнікамі і бальшавікамі каляіны.






Вяртаюся ў Крушыняны. Паміж згаданымі раней будаванымі комплексамі прыцягнення наведвальнікаў знаходзіцца адзін ужо гатовы. Гэта будынак былой школы, зараз перабудаваны і названы „Дварком пад ліпамі”. У 1959 годзе „Ніва” так пра тую школу пісала: „Яшчэ 1 мая 1958 года на месцы пабудовы нічога не было. Сяляне думалі, што школа будзе ставіцца 3-4 гады. Нам прыгадалася, як ставілася школа пры санацыйнай уладзе. На плошчы былі ўсе матэрыялы: цэгла, вапна, каменне, дрэва, дошкі і іншыя, але адны звозілі, а другія прадалі і прапілі. Такім чынам нашы дзеці праз шмат гадоў мучыліся і дамярзалі ў цёмным і нізкім будынку. Сёння ў нашай вёсцы стаіць прасторная, ясная школа. У школе ёсць электрычнае святло”. Некалькі тыдняў пазней „Ніва” пісала зноў: „12 чэрвеня г.г. — знамянальная дата для вёскі Крушыняны ў Сакольскім павеце. У гэты дзень было ўрачыстае адкрыццё новай, прыгожай і вялікай школы. На ўрачыстасць сабралася многа людзей. Выступалі з прамовамі прадстаўнікі павятовых улад і жыхары Крушынян. Уся грамадскасць вёскі Крушыняны вельмі ўдзячна партыі і ўраду за такі прыгожы падарунак іх дзецям. Школа мае вялікія залы і навейшае школьнае абсталяванне”. Да таго ж „акрамя патрэбнага абсталявання школа атрымала фотаапарат, акардэон, 4 скрыпкі, гітары і мандаліны...”.

Сёння да Крушынян з амаль усіх бакоў падступае лес, крыху поля захавалася яшчэ за паўднёвым канцом вёскі. За вёскай, пры дарозе ў Лужаны, конская ферма, адно коні тыя не традыцыйнай цяглавой сакольскай пароды, бо яны ўжо для земляробства непатрэбныя, толькі лёгкія верхавыя для задавальнення капрызаў гарадскіх турыстаў. Ды і выгляд вёскі сведчыць пра яе адаптацыю да новых выклікаў. Частка старых будынкаў у запушчаным стане, частка абнаўляецца, шмат новаўзвядзенняў. Апошнія адмыслова прыаздобленыя дзеля прыцягнення да сябе ўвагі патэнцыйнага пакупніка мясцовай экзотыкі. Інакш выглядае будынак пажарнага дэпо, узведзены, мабыць, крыху пазней за тамашнюю школу — да яго, калі хто і заглядаў, дык надта даўно — усярэдзіне звалены нейкія старыя вокны і дзверы, магчыма колішнія школьныя...

„Ля крыніц Слойкі-рэчкі — пісаў калісьці Сакрат Яновіч — вызваленьваецца аж па край густы ялінавы і сасновы маладняк. Харaство... ва ўражанні бязлюддзя”. Наваколле Крушынян таксама вызваленьваецца. Хто ведае, што тут пабачыць наступнае пакаленне, можа гасцінічныя ўстановы звабяць сюды шматлюддзе цікаўнага экзотыкі народу, якому запрапануюць яшчэ больш цікавінак. Можа тут, у экзатычным лясным антуражы, узнікне нават нейкі мясцовы Las Vegas...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# (Не)абавязковыя аўтары

Частка 1

Спіс твораў для абавязковага чытання ў ліцэі пастаянна скарачаецца і ў прынцыпе не папаўняецца кніжкамі сучасных, маладых аўтараў. Паколькі ў праграме па польскай мове тое-сёе яшчэ падыходзіць чытачу падлеткавага ўзросту, то «сучаснымі» аўтарамі ў падручніках па беларускай мове называюцца, напрыклад, Аляксей Дудараў ці Алесь Разанаў. Маўляў, крытэрыем, па якім ацэньваецца прыналежнасць аўтара да пакалення «маладой беларускай літаратуры» з'яўляецца тое, ці ён яшчэ ў жывых.

Калі і ў праграме для трэцяга класа прадугледжаныя некаторыя творы новай плыні, звычайна не хапае часу, каб з імі пазнаёміцца — яны ў канцы падручніка, а навучальны год заканчваецца практычна ў красавіку і не хапае часу. Атрымоўваецца, што абітурыенты беларускіх школ на памяць ведаюць, што той ці іншы аўтар «паэт, пісьменнік, публіцыст. Нарадзіўся ў сялянскай/шляхецкай сям'і, працаваў хатнім настаўнікам». І нічога больш. Можа яшчэ радкі пра спадчыну, якая засталася ад прадзедаў.

А колькі вучняў знаёмыя з перафразаваным вершам класіка:

Ад прадзедаў спакон вякоў  
мне б засталося сто гектараў.  
Каб не было бальшавікоў  
і іхных сраных камісараў.

Гэта Усевалад Сцебурака, намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, год нараджэння — 1981. Для таго, каб пачытаць ягоныя творы ці (тут інфармацыя


www.facebook.com/usevalad.stseburaka




асаблівa для дзяўчат) паглядзець здымкі, не трэба капацца ў тоўстых, запыленых шматтомніках, якія прапануюць школьныя бібліятэкі. Сёння смела можна сказаць, што беларускія дзеячы, якія даўным-даўно прагназавалі знішчэнне рэштkaў беларушчыны на Падляшшы разам з прыходам інтэрнэту, памыляліся. Штодзень у блогах, на сайтах і прыватных старонках у сацыяльных сетках з'яўляецца процьма больш ці менш вартасных літаратурных твораў: вершаў, афарызмаў, міні-эсэ. Самыя актуальныя допісы і здымкі маладых літаратараў можна глядзець, «падпісаўшыся» на іх у фейсбуку. А поўныя версіі зборнікаў паэзіі або раманаў лёгка можна знайсці ў інтэрнэт-бібліятэках. Для аматараў традыцыйнай формы кантакту з літаратурай — у папяровым выглядзе — працуюць інтэрнэт-крамы, якія афармляюць заказы ў Польшчу хутка і без праблем. У крайнім выпадку, замест у соты раз фатаграфавацца на фоне сталічнай дыска-кулі (будынка Нацыянальнай бібліятэкі ў Менску) у часе традыцыйнай штогадовай экскурсіі ў беларускую сталіцу, адвесці паўгадзінкі і наведаць незалежную беларускую кнігарню. Шляхі набыцця вядомыя. Пытанне ў тым, што шукаць і каго чытаць.

З верагоднасцю, якая мяжуе з упэўненасцю, даспадобы прыйдзецца ліцэістам творчасць (і знешні выгляд) вышэйзгаданага Усевалада Сцебуракі. Хоць цяжка знайсці творы паэта і шоўмена, тэматычна звязаныя з тым, што ўпарта змяшчаюць у падручніках па беларускай літаратуры іх аўтары, і да чаго так звыкліся вучні. Замест мужыка ў лапцях знойдзем тут хлопца, які тузаецца па барах начнога горада, замест драўлянага воза — шпаркія таксі. Мроі лірычнага героя далёка не пра светлую будучыню няшчаснага беларускага народа:

Медыкам сняцца шпрыцы і халаты,  
сняцца ахоўнікам зона і краты,  
курыцы сніцца яе кураня,  
мне трэццю сніцца толькі херня.

Пры ўсім тым вершы Сцебуракі чытаюцца і ўспрымаюцца лёгка і вельмі прыемна, перш за ўсё з-за сваёй формы. Паэта смела можна назваць пераемнікам Янкі Купалы ці Уладзіміра Някляева, калі ідзе пра своеасаблівую мелодыку твораў. Яны ў пераважнай большасці класічныя, традыцыйныя па стылі, можна сказаць, «пяснярскія»:

У пяць гадзін раніцы ў пяць  
шклом алкашы не звіняць,  
дзеці макдональдсы сняць  
у пяць гадзін раніцы ў пяць  
(...)  
У пяць гадзін раніцы ў пяць  
можна сабе дазваляць  
простыя рыфмы ствараць  
у пяць гадзін раніцы ў пяць

Таксама кароценькія занатоўкі-рэмаркі Усевалада Сцебуракі, якія можна прачытаць у зборніку «Бег па самаадчуванні» небанальныя, без лішняга пафасу і дасціпныя. Некаторыя, мабыць будуць зразумелыя толькі чытачу, які з маленства знаёмы з камп'ютарнымі тэхналогіямі: *Цікаўны юзэр трапіў у рукі ваяўнічых індзейцаў і яны знялі з яго скайп.* Або ўніверсальнае: *Як твае справы? У мяне было дрэннае пачуццё, што ў цябе ўсё добра...*

Карацей, варта самастойна пагартаць старонкі кніжак Сцебуракі (ці ягоную старонку ў фейсбуку), каб, магчыма, знайсці нешта цікавае для сябе ды сфармаваць погляд на маладую беларускую паэзію. Магчыма ў выніку, праз некалькі гадоў, вусныя прэзэнтацыі на матуральным экзамене ці прадметным конкурсе па тэме «Мой любімы пісьменнік» будуць пачынацца са слоў: «Усевалад Сцебурака — паэт, пісьменнік, шоўмен. Нарадзіўся ў інтэлігенцкай сям'і, працуе вядоўцам вяселляў ды карпаратываў».

**Ганна МОРДАНЬ**

САЮЗ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ

## http://belorus.lv

Беларускія дыяспары, як дарэчы і беларускае грамадства, сёння падзеленыя на праўрадавыя, то-бок пралукашэнкаўскія, і пранацыянальныя. Гэты тэзіс неаднаразова падкрэсліваўся, калі аглядаліся дыяспарныя сайты. Такая рэчаіснасць, зразумела, шкодзіць агульнабеларускаму руху, але яна ёсць і ад яе нікуды не падзецца.

Дзесяць гадоў таму, у красавіку 2005 года, „Ніва" пісала пра сайт Латвійскага таварыства беларускай культуры „Світанак". Дадзены сайт існуе і дагэтуль, прычым амаль не змяніўся яго выгляд. Таварыства прытрымліваецца пранацыянальных прынцыпаў — нездарма на яе эмблеме прысутнічаюць элементы бел-чырвона-белага сцяга. Аднак разам з гэтым таварыствам у латвійскай краіне існуе і іншая беларуская арганізацыя — Саюз беларусаў Латвіі, якая не выкарыстоўвае даных сімвалаў. Пазнаёміцца з ёй віртуальна дае магчымасць сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://belorus.lv**.

Шчыра кажучы, сайт Саюза прайграе сайту „Світанка" і па насычанасці колераў, і па аздабленню, і па будове. Відаць, яго ўладальнікам не надта залежыць на прывабнае для карыстальнікаў прадстаўніцтва ў інтэрнэце.

Першая старонка сайта Саюза, які зроблены на платформе **Wordpress**, з вялікай цяжкасцю можа прыцягнуць чыюсьці ўвагу — беларуска-руская мяшанка ў назвах рубрык, такая ж мяшанка тэкстаў на галоўнай старонцы, дзе месціцца не прэзентацыя арганізацыі ці навіннія паведамленні, а нейкі доўгі верш і расповед аб ім. З якіх меркаванняў уладальнікі сайта вырашылі паставіць літаратурны агляд на першы план здалага сайта, здагадацца немагчыма. Пры гэтым варта адзначыць, што, згодна з дат выстаўлення тэкстаў, апошнім часам праца на сайце актывізавалася. Таму было б нядрэнна, каб з павелічэннем паведамленняў узрастала і іх якасць.

Калі прааналізаваць змест рубрык, то застаўся незразумелым сэнс існавання рубрыкі „Газета «Прамень»". Там месціцца выключна анонсы тых самых тэкстаў, што размешчаны на галоўнай старонцы сайта.

Разам з тым даволі цікавай і пазнавальнай трэба прызнаць старонку „Рыжская беларуская школа". На ёй мы можам знайсці як расповеды пра школу, так і тэкст, дзе гаворка аб беларускай мове ў святле дзвюх асоб — паэтаў Янкі Купалы і Яніса Райніса. Цікавай будзе і рубрыка „Таварыствы". Там месціцца пералік усіх беларускіх суполак, якія аб'ядналіся ў Саюз беларусаў Латвіі, а таксама паведамленні аб іх. Дарэчы, гэтых суполак не так ужо і мала — чатырнаццаць, сярод якіх няма вышэйзгаданага „Світанка". Такая акалічнасць адразу нараджае пытанне, адказ на якое просты і адначасова цяжкі.

Адметна, што пра „Світанак" не ўпамінаецца нідзе на сайце Саюза, таксама як і пра Саюз на сайце „Світанка". Такое вось дзіўнае ўзаемнае ігнараванне, нейкае тлумачэнне якому можна прачытаць у інтэрв'ю старшыні Аб'яднання мастакоў беларусаў Балтыі „Маю гонар" Вячкі Целеша, якое ён даў інтэрнэт-часопісу **„The_Point Journal"** у маі 2013 года.

„Нашаму „Світанку" не было магчымасці ездзіць у Даўгаўпілс ці Лудзу (Люцын), каб дапамагаць тамтэйшым беларусам. Гэтым, на жаль скарысталіся пэўныя асобы, яны прасавецкія, якія не падтрымлівалі з першага дня незалежнасці Латвіі. Яны падтрымліваюць беларускую культуру і мову, аднак не хочуць мець аніякіх кантактаў з намі, бо бачаць, што мы падтрымліваем палітыку Латвійскай еўрапейскай дзяржавы, а не глядзім на Усход. Таму беларусы ў Латвіі таксама, як шмат дзе, ёсць раз'яднанымі", — тлумачыць сітуацыю мастак.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара



Юбілей вялікага ліцвіна

## 500 гадоў з дня нараджэння Мікалая Радзівіла «Чорнага»

Мікалай Радзівіл па мянушцы «Чорны» — адна з найвялікшых і славутых постацей нашай сярэднявечнай гісторыі, вядомая ва ўсёй Еўропе. Прадстаўнік алыцка-нясвіжскай лініі роду Радзівілаў гербу «Трубы» нарадзіўся 4 лютага 1515 г. у Нясвіжы ў сям'і Яна «Барадатага», кашталяна троцкага, і Ганны з Кішкаў. Праўдападобна, атрымаў толькі хатнюю адукацыю, што не замінала яму вырасці ў буйнага дзяржаўнага дзеяча. Дзейнасць Мікалая Радзівіла як вялікага рэфарматара кардынальна паўплывала на царкоўна-рэлігійнае і культурнае жыццё ўсяго Вялікага Княства Літоўскага.

Юнацтва «Чорны» правёў пры каралеўскім двары ў Кракаве, дзе адбылося яго сяброўскае збліжэнне з будучым вялікім князем літоўскім і каралём польскім Жыгімонтам Аўгустам. Браў удзел у вайне ВКЛ з Масковіяй (1534-1537), на якую разам з братам Янам выставіў 160 коннікаў.

Імклівы службовы ўзлёт Мікалая Радзівіла пачаўся пасля 1544 г., калі на Берасцейскім вальным сойме быў прыняты акт, паводле якога Жыгімонт Стары перадаваў поўную ўладу ў ВКЛ свайму сыну Жыгімонту Аўгусту. У гэты час Радзівіл атрымаў уплывовую пасаду земскага маршалка, якая давала магчымасць часта бываць на вялікакняскім двары. Ён удзельнічаў у пасольскіх місіях у іншыя дзяржавы. У час падарожжа ў Аўгсбургу атрымаў ад імператара Святой Рымскай імперыі Карла V правa на княскі тытул для сябе і асобных прадстаўнікоў свайго роду. У 1549 г. удзельнічаў у ваенных дзеяннях супраць татараў на Валыні. У 1550 г. атрымаў пасаду канцлера вялікага літоўскага. Уплыў Радзівіла на палітыку вялікакняскага ўрада быў такі значны, што ён здабыў права на захоўванне найважнейшых дзяржаўных актаў у сваім архіве.

З яго ўдзелам прайшла судова-адміністрацыйная рэформа, у выніку якой утварыліся шляхецкія станавыя суды і мясцовыя органы самакіравання — соймікі. Галоўнай сферай дыпламатычнай дзейнасці былі адносіны з Інфлянтамі, вынікам чаго было падпісанне дамовы пра іх падпарадкаванне супольна Вялікаму Княству і Кароне. Пазней стаў адміністратарам гэтых зямель.

Мікалай Радзівіл «Чорны» падтрымліваў палітычны саюз з Польшчай, аднак быў супраціўнікам федэрацыі і бараніў суверэнітэт ВКЛ. Таму пры ягоным жыцці дзяржаўная унія з Польшчай не была складзена.

З імем Мікалая Радзівіла «Чорнага» звязваецца распаўсюд і прапаганда рэфармацыйных ідэй, арганізацыя рэфармацыйнай царквы ў ВКЛ. Палітычны ўплыў і аўтарытэт «Чорнага», які першым з магнатаў прыняў пратэстанцкую веру, абумовілі пераход значнай часткі шляхты ў пратэстанцтва. Спачатку ён схіляўся да лютэранства, але з сярэдзіны 1550-х гг. прыняў кальвінізм, які атрымаў значны распаўсюд на нашых землях.

У 1563 г. на сродкі Радзівіла выйшаў польскі пераклад поўнага зводу Біблії, найбольшы паводле аб'ёму і адзін з найлепшых па мастацкіх і паліграфічных якасцях свайго часу. У гісторыю беларускага кнігавыдання ён увайшоў як «Берасцейская біблія».

Памёр Мікалай Радзівіл пасля пакутлівай хваробы 29 траўня 1565 г. у 50-гадовым узросце ў Лукішках пад Вільняй. Быў пахаваны разам з жонкай пры віленскім зборы. Але ў 1647 г. іх парэшткі ўрачыста перанеслі з Вільні ў Дубінкі.

У Беларусі Мікалай Радзівіл «Чорны» прызнаны буйным дзеячам. Нядаўна ў вялікіх гарадах краіны з'явіліся білборды з яго выявай, нароўні з Еўфрасінняй Полацкай.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Калядны канцэрт


Хор з Кузавы

У календары культурных мерапрыемстваў, арганізаваных Гмінным асяродкам культуры ў Чаромсе, вечар калядак займае пачэснае месца. Мерапрыемства адбываецца пры канцы студзеня, пасля Вадохрышча. У гэтым годзе імпрэза супольнага праваслаўна-каталіцкага калядавання адбылася 24 студзеня. Як штогод, так і зараз зала была да краёў запоўненая публікай. Не трэба было лішняй рэкламы. Хто не быў, няхай шкадуе, бо было на што паглядзець...

Канцэрт пачаўся ў 17:00 і доўжыўся каля трох гадзін. Рэпертуар быў багаты і разнародны, а праграма мянялася як у калейдаскопе. Першым запрэзентаваўся духавы аркестр пад кіраўніцтвам капельмайстра Мікалая Гарадкевіча. У выкананні музыкантаў прагучалі вядомыя польскія пастаралкі: „Wśród nocnej ciszy”, „Pójdźmy wszyscy do stajenki”, „Lulajże Jezuniu”, „Przybieżeli do Betlejem”, а на развітанне — праваслаўная калядка „Сумній святый вэчір”.

Пасля музычнага прывітання сцэнай авалодалі маладыя калядоўшчыкі, пачаўшы ад малеч з садка, затым выступілі гурт „Гілочка” пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі, удзельнікі гуртка і музычнага „агніска” пад кіраўніцтвам Барбары Кузуб-Самасюк, а завяршылі вучні пачатковай школы. Над мастацкай часткай гэтых апошніх працавалі настаўніцы Ірэна Бачынская і Іаанна Раманюк. У рэпертуары школьнікаў былі вядомыя каталіцкія і праваслаўныя калядкі, верш „Jak co roku”. Цікавую сцэнку „Вэртэп” і калядкі „Добрый вечір Тобі”, „Святая Варвара”, „З Новым роком ідэм” і „Небо і земля” запрэзентавалі школьнікі, якія вывучаюць украінскую мову. У далейшай частцы канцэрта прэзентаваліся гімназісты ды царкоўныя парафіяльныя хары з вёскі Чаромхі, Кузавы і Чаромхі-Станцыі ды парафіяльны хор пры каталіцкім касцёле ў Чаромсе пад кіраўніцтвам Станіслава Матошкі. Пеўчая група з вёскі Чаромхі (з Грышай Боцюкам) выканала тры даўнейшыя калядкі: „Нова радасць стала”, „Шчо то за прэдівна” і „Дівная новына”. Парафіяльны хор з Кузавы пад кіраўніцтвам Барбары Смык праспяваў калядкі „Шчо то за прэдівна”, „Веселіся Віфлієме” і „В Віфлієме днесь Марыя”. Паспяхова запрэзентаваўся касцельны хор з Чаромхі, які праспяваў калядкі „Gdy ziemię cichym snem”, „Przylecieli aniołowie”, „Zjawiło się nam”, „Bracia patrzcie jeno” і „Niepojęte dary dla nas daje”. Канцэрт завяршыў парафіяльны хор з Чаромхі-Станцыі пад кіраўніцтвам а. Мікалая Беламызага, які выканаў калядкі „В Віфлієме тайна”, „Эта ноч святая”, „Спі, Ісусе, спі”, „Раждаство Хрыстова” і „Торжествуйте, веселитесь”.

Немагчыма ў адным допісе апісаць разнародны рэпертуар і ўсіх выступаючых у канцэрце калядоўшчыкаў. Найлепшай узнагародай для ўдзельнікаў супольнага калядавання былі апладысменты аўдыторыі. А бурныя воплескі ў зале не сціхалі пасля кожнага нумара. Гэта сведчыла, што калядоўшчыкі іх заслужылі.

Уладзімір СІДАРУК
Фота Тамары Кердалевіч

## ЗАПРАШЭННЕ

**З цыкла размовы аб: ....**

**„Цудзе ў Заблудаве”**

**расказвае ПЁТР НЕСТАРОВІЧ (журналіст — аўтар кніжкі) „ЦУДОЎНАЯ”**

**Сардэчна запрашаем!**
**Цэнтр прамоцыі рэгіёна „Чарлёнка” Гайнаўка, вул. Т. Саланевіч, 2**
**11.02.2015 г. гадз. 17:00**

# Калядкі ў Тарэспалі

Ад 30 студзеня да 1 лютага 2015 года ў Тарэспалі праходзіў XX Міжнародны фестываль усходнеславянскіх калядак. Гэта быў юбілейны выпуск прэстыжнага міжнароднага мерапрыемства, якому патранаваў прэзідэнт Рэчы Паспалітай Браніслаў Камароўскі. Гонару выступіць на інаўгурацыйным канцэрце 30 студзеня ўдастоіўся фолькавы гурт „Чарамшына” з Чаромхі. Апрача „Чарамшыны” ў гэты дзень выступілі яшчэ парафіяльны хор са Славатыч, жаночая вакальная група „Відымо” Саюза ўкраінцаў у Польшчы з Санока, хор праваслаўнай кафедры з Любліна, фолькавы калектыў „Гаманіна” Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі з Мінска і дзіцяча-маладзёжны хор праваслаўнай кафедры з Вінніцы на Украіне. „Чарамшына” на канцэрце праспявала чатыры калядкі: „Нова радасць стала”, „Шчодры вэчір”, „Добрый вэчір, Тобі” і „Коляда-колядіца”. Выступ „Чарамшыны” на міжнародным прэстыжным фестывалі гэта гонар не толькі для ўдзельнікаў ансамбля і чарамшан, але і для Гайнаўшчыны і нашай малой Айчыны — Падляшша. Каб такіх ластавак напрадвесні (ды і не толькі) прылятала да нас больш!

Уладзімір СІДАРУК

## ЗАПРАШЭННЕ

# Канцэрт

**Зміцера Вайцюшкевіча**

**пад загалоўкам НОВАЕ/ЛЕПШАЕ**



**Дата:** 12 лютага 2015 г. у 20.00 гадзін.
**Месца:** „Zmiana Klimatu”, вул. Варшаўская, 6.
**Білеты:** 15 зл. /25 зл. (у дзень канцэрта).
**У праграме:** між іншым, Ногавіца і Ваячак па-беларуску ды лепшыя песні Зміцера Вайцюшкевіча/Тодара.

# 08.02 — 14.02

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш баявіты і ўдачлівы. Магчымыя надакучлівыя праблемы ў пары. У вольнага Барана многа красы, мілаты і ўмеласці ў наладжванні кантактаў. Пашчасціцца тым, хто хоча прадаць і купіць жыллё. Бараны з 2-7.04. няхай пільнуюць сваіх выдаткаў. 8-12.02. не ўкляпайся непатрэбна з кімсьці ў непатрэбную дыскусію.

**(21.04. — 21.05.)** Да 10.02. будзеш моцны, трывалы, у засяроджанні зрэалізуеш свае планы, зможаш моцна папрацаваць з вялікімі рэзультатамі. Але 8-12.02. хтосьці можа цябе расчараваць. 10-12.02. ахвотна падаруеш трохі часу сабе і сям'і. Мілыя сустрэчы і з сябрамі. Варта схадзіць на трэнажорню, на басейн. На працы тваімі козырамі будуць адкрыццё на новыя прапановы і ўмеласць дастасавацца да акалічнасцей.

**(22.05. — 22.06.)** Можаш спадзявацца ў сямейных справах раптоўнага павароту. Адвернецца тое, што дагэтуль ішло не па тваёй думцы. Рамантызм, субтыльнасць і прыліў палу. Блізняты, якія мараць пра поспехі, урэшце зрэалізуюць свае планы. Не сядзі ў куце! Але не хвалі дня перад захадам сонца, давядзі справы да канца, бо 10-12.02. перад фінішам могуць яны папсавацца; важны аптымізм, але не менш важны рэалізм. З 11.02. усе твае справы рушаць з месца; рыхтуйся да выездаў, у час якіх можаш сустрэць кагосьці асаблівага.

**(23.06. — 23.07.)** 8.02. не падпісвай ніякіх дамоў. 9-13.02. станеш творчы і ўпарты, што прынясе цудоўныя рэзультаты. Ракам у новых парах (6-10.02.) зоркі дазволяць наблізіцца і адкрыцца перад сабою; варта ў гэты час кудысьці разам з'ехаць. Валянцінкі праведзеныя разам — час умацавання пачуццяў і спалучаючых адносін. Парабі неабходныя абследаванні ў доктара.

**(24.07. — 23.08.)** Спрыяльны супольным вызначэнням і будаванню адносін час. Асабліва добры час для Львоў у пастаянных парах, і для трапных выбараў. Не адмаўляй нікому дапамогі. Магчымыя турботы з хатнімі 11-15.02.; трымай язык за зубамі. Не траць запалу на працы. 8-10.02. будзеш удачлівы і моцны, можаш здзейсніць штосьці важнае.

**(24.08. — 23.09.)** Многа рамантычных хвілін! Выкарыстай іх. Свежазакаханыя Дзевы не пашкадуюць. Дзевы народжаныя на пераломе жніўня і верасня няхай асцерагаюцца, каб не звёў іх хтосьці, з кім будуць адны праблемы. Будзеш уражлівы на фазы Месяца; 12.02. настроіць ён цябе да ўцёкаў у глыб сябе самога.

**(24.09. — 23.10.)** Знакаміта складзецца табе на кожным полі. У пару пазбудзешся пагроз дзякуючы самаўпэўненасці, якой будзеш мець хоць адбаўляй. Акаляйся людзьмі. Адкрыта кажы, што табе ляжыць на пячонцы. Але пільнуйся — зоркі прадбачваюць 8-12.02. страты і пачуццё расчаравання.

**(24.10. — 22.11.)** 6-10.02. можаш удала падзарабіць. 7-10.02. зможаш раскруціць інтарэс або захапіць чыёсьці сэрца, удасца табе здабыць тое, што хочаш. З 13.02. добра задбаеш аб свае інтарэсы, дома пазітыўныя змены. Дар'уй віны. Сябры будуць патрабаваць тваёй увагі. 11-15.02. асоба, з якой даўно не маеш кантакту, схоча аднавіць знаёмства. Не бойся хвароб. Знакаміты час на ўзмацненне пазіцыі ў прафесіі, ды не рассакрэчвай сваіх планаў.

**(23.11. — 22.12.)** 9-13.02. удалыя выпадкі, у выніку якіх паправіш сваё фінансавае становішча. Зрэалізуеш смелыя і творчыя задумы. Дбай аб адносіны. Расквітнее тваё кампанейскае жыццё пасля 11.02. Ашчаджай!

**(23.12. — 20.01.)** Цудоўныя дні ў парах з доўгім стажам. Поўня шчасця ў сужонствах і ў пар гатовых сказаць «так». Небанальныя знаёмствы. Разлічвай на вялікае спрыянне людзей. Можаш знайсці шчасце далёка ад дому. Арганізм падтрымлівай натуратэрапіяй. На працы твае высілкі будуць ацэненыя.

**(21.01. — 19.02.)** За партнёра, на якім табе залежыць, змагайся назалежна ад коштаў. У выпадку «здрадлівых» думак хутка іх пагасі! Дома задбай, каб усё блішчэла; гэта таксама супакоіць хаос думак. Звярні ўвагу на тое, што ясі.

**(20.02. — 21.03.)** 9-13.02. паграхаюць табе расчараванні ў міжчалавечых адносінах; не давярай навапазнаным людзям, цяпер таксама ненайлепшы час на важныя размовы. Пары выйдуць з крызісу, падмацаваныя чуласцю і лагоднасцю. Рыба народжаная ў лютым увядзе змены ў сямейным жыцці. Дбай аб здароўе, бо цікуюць запаленні і інфекцыі. Не настаўляйся на відны поспех, але на адпускай — неўзабаве дзякуючы працавітасці і самадысцыпліне будзеш мець тое што хочаш.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

1. выспа ў Баранцавым моры, 2. гарадок, 3. навігатар карабля, 4. галоўная артэрыя, якая жывіць кроўю органы цела, 5. пііцё для жывёлы, 6. офіс, 7. каменны насціл дарогі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. (ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 |
| | | | 2 | | 3 | | |
| | | 4 | 5 | | | | |
| | | 6 | | | | | |
| | | | | | | | 7 |

Адказ на адгаданку з 3 нумара

Бацька, ват, гаць, гіра, дыба, дыван, Кіеў, кілбаса, кузаў, курыца, Маўр, пі, царыца, Ціт, Чылі, шабаш.

Рашэнне: **Калі ў гаршку не варыцца, тады і баба сварыцца, а калі ў гаршку кіпіць, тады і баба змаўчыць.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Украіна
## ў цяні вайны (19)



Юрый Андруховіч, самы вядомы ў свеце сучасны ўкраінскі пісьменнік, моцна сумняваўся ў нейкім грамадскім супраціве. Перыяд 2004-2014 гадоў, паміж першым і апошнім «Майданамі», прамаўляў татальнай паразай. Дзесяць гадоў безупынных канфліктаў і эканамічнага краху пазбавіла ўкраінцаў надзеі і сілы. Кожны, хто мог, з'язджаў за мяжу ў пошуках лепшай долі. Сам пісьменнік збіраўся ў замежжа, калі нечакана пачаўся другі «Майдан»! Ён, замест на кіеўскае лётнішча, не думаючы ні хвіліны, падаўся на Крашчацік, дзе выйшаў народ заступіцца за пабітых студэнтаў. Андруховіч глядзеў на сваіх суродзічаў ды не пазнаваў іх. У грамадзе лунаў новы дух, неверагодная энергія, дзесьці развеяліся страх і сумненні. Украіна зноў прачнулася. Пісьменнік ведаў адно: гэта апошні шанц, каб падняцца з каленяў.

* * *

Як не дзіўна, у час апошняй паездкі мы таксама адчулі перамену настрою. Усё здавалася як у час першай паездкі ў жніўні 2004 года. Як не дзіўна, народ ужо «ведаў» пра надыход аранжавай рэвалюцыі ды праяўляў гэта ў сваім акрыленым, поўным надзеі настроі. Сама рэвалюцыя, згодна са сваёй прыродай, успыхнула нечакана як рэакцыя на фальшаванне выбарчых вынікаў. Падзеі ў Кіеве 2004 года прыкмеціў увесь свет. Палітолагі адзін за адным паўтаралі, што менавіта там нараджаецца новая мадэль мірнага вырашэння канфліктаў. Адначасова падмацавалася сусветная вера ў сілу мірных перамоў і пагадненняў.

Гэтая ідэалогія найбольш пашкодзіла самім украінцам. У пачатку 2014 года, калі ўлады рашылі абараняць межы краіны, іх армія прадстаўляла сімвалічны быт. У час нашай пабыўкі ішоў агульнанародны збор грошай на яду і вопратку для навабранцаў. У магазінах, на вакзалах, на аўтазапраўках стаялі апячатаныя скрыначкі, дзе пакупнікі астаўлялі здачу ад пакупак. Збор грошай ладзілі парафіі, школы, шпіталі, культурныя ўстановы.

Хоць такая дапамога здавалася кропляй у моры, людзі выстойвалі ў чэргах, каб кінуць свае грашакі ў ахвярныя скрынкі. Цягам няпоўнага года ў армію было мабілізаваных дзвесце тысяч навабранцаў. Сама вайна напамінае лакальны канфлікт, на самой справе ваюе між сабой Усход. Большасць украінскіх атрадаў, што змагаюцца з апалчэнцамі, арганізаваныя і фінансаваныя алігархам Каламыйскім з Днепрапятроўска. Таму ў справаздачах з фронту, якія прабіваюцца ў свет шляхам інтэрнэту, баевікі і жаўнеры распраўляюцца між сабой з дапамогай рускай мовы. Гэтыя баі, быццам доказ наяўнага дэбільства, якраз успыхаюць з новай сілай пасля мінскіх мірных перагавораў.

* * *

Мае падарожжы ва Украіну амаль заўсёды мелі характар пілігрымкі ў Пачаеўскую лаўру. Цягам дзесяці апошніх гадоў месца, як і сама краіна, шмат у чым памянялася. Погляд, быццам у Пачаеў прыязджаюць адны расейцы, беларусы і малдаване, больш прапагандысцкі, чым праўдзівы, наклíканы становішчам у краіне. Ад пачатку месца захапляла нас народнай стыхіяй, гарачай і спантаннай рэлігійнасцю, якая наклікала часы першых хрысціян. Заўсёды пасля набажэнстваў мы прысядалі побач народу на лавачках, каб моўчкі падыхаць святым месцам. Прыезджыя з Расіі, Малдавіі і асабліва з Беларусі выдатна падбівалі набрынялую сардэчнасць і духовасць месца. З адкрытасцю і зразуменнем тут прымалі турыстаў-католікаў, якія час ад часу заглядалі ў лаўру (польскія даведнікі інфармавалі, што Пачаеўскай іконе быццам пакланяўся сам паэт Юліюш Славацкі, народжаны ў недалёкім Крамянцы).

Экуменізм і братэрства панавалі таксама ў прыватных украінскіх дамах, дзе прымалі пілігрымаў. У нашай кватэры на сцяне вісеў малюнак сібірскага горада Інта, вядомага з-за катаргі і турмы. Нашы гаспадары паехалі ў рэспубліку Комі добраахвотна, за працай. Гэты перыяд лічылі самым рамантычным у жыцці. Дзесьці ў 2010 годзе карціна знікла са сцяны. Таксама нашыя сябры з гэтага пасёлка не хацелі ісці разам у царкву. Дыстанцыю да месца выклікаў візіт Віктара Януковіча. У самой лаўры таксама пайшлі перамены. Наш «польскі акцэнт» раптам пачаў выклікаць адно нервовае пытанне: *Ці хоць не католікі?!*

У час апошняй пабыўкі мы былі сведкамі непрыемнага здарэння. У час пропаведзі саноўнік на прыгожай сакавітай украінскай мове абазваў удзельнікаў Дня незалежнасці паганцамі і злачынцамі ў законе. У час гэтай непапраўнай навукі дзіка зароў апантаны, ад чаго зрабілася яшчэ больш страшна і грэшна. У адказ частка вернікаў дэманстратыўна пакінула царкву...

Праўда, частка паломнікаў ігнаравала падобныя прамовы ды моўчкі замольвала нянавісць і нацыянальнае ігнараванне.

* * *

Апошні адрэзак дарогі з Бельска ў Беласток быў неверагодны і цудоўны. Наш шафёр, каб падтрымаць бяседу ў атмасферы падарожніцкай прыгоды, сам распавёў пра нядаўняе падарожжа ў Індыю. Згодна з сусветнай звычкай, ён налажыў шмат кіламетраў, каб прывезці мяне, а пасля Д., пад нашы блёкі ў розных кварталах горада. Узамен мы паабяцалі дасласць прыгожую паштоўку з наступнага, яшчэ не прыдуманага, падарожжа. Пасля па адрасе высветлілася, што падвозіў нас славуты Пятро Савіцкі, чэмпіён свету па каратэ кіокушын з 1997 года ў Токіо, шматразовы чэмпіён Еўропы і Паўночнай Амерыкі. Залаты медаліст, у адрозненні ад прэзідэнта Расіі, ні словам не заікнуўся пра свае спартыўныя поспехі. Мужчынскую адвагу прадэманстраваў у надта канкрэтны спосаб, падбіраючы з дарогі ноччу здарожаных вандроўніц. Дзякуючы яму, мы паспелі дабраццa на дамоўлены час у здароўі і творчым натхненні.

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**








ISSN 0546-1960